
Бандароўская гасцёўня➔3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Сведка на мяжы➔8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 29 (3245) Год LXIII | Беласток, 22 ліпеня 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Купалле ў Белавежы

**Купальскія мерапрыемствы арганізуюцца ў розных мясцовасцях Беласточчыны, а найбольш іх ладзіцца на Гайнаўшчыне. Аднак гэта ў Белавежы адраджаліся купальскія традыцыі, якія сягаюць ажно паганскіх часоў і тычацца абрадаў звязаных з летнім сонцастаяннем. «Купалле», арганізаванае 7 ліпеня ў Белавежы Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства з дапамогай войта Белавежскай гміны сёлета супала са святкаваннем Нараджэння святога Іаана Хрысціцеля і сабрала многа публікі, якую саставілі перш за ўсё маладыя людзі і асобы ў сярэднім узросце. Сярод белавежскай публікі можна было спаткаць айчынных і замежных турыстаў, якія масава наведваюць летам адну з самых папулярных турыстычных мясцовасцей на Падляшшы.**




Жыхары Беласточчыны хочуць у Белавежы выслухаць беларускія песні ў адборным выкананні, паглядзець беларускія народныя танцы і адпачыць на прыродзе. Тым, што адрозніваe «Купаллі» ад іншых шматлюдных беларускіх фэстаў, з'яўляюцца купальскія абрады, якім спадарожнічаюць купальскія песні, пусканне вянкоў на ваду і пошукі папараць-кветкі ў лесе.

У Белавежы многа пансіёнаў і агратурыстычных кватэр, якія летам запаўняюцца турыстамі. У цэнтры пасёлка было мора машын, што стаялі на тратуарах і спецыяльна падрыхтаваных на купальскае мерапрыемства стаянках. У дзень мерапрыемства адбываўся футбольны матч паміж камандамі Расеі і Харватыі ў рамках спаборніцтваў за сусветны кубак, таму каля часткі харчавальных месцаў, распалажаных вакол белавежскага амфітэатра, былі расстаўлены вялікія тэлевізары і мужчыны сачылі там за ходам матча. Пазней пра яго выдік спытаў сабраных са сцэны вядучы купальскае мерапрыемства Радаслаў Дамброўскі. У асноўным і дабавачным часе матч закончыўся вынікам 1:1, а пенальці вырашылі, што перамагла каманда Харватыі. Каля амфітэатра заўважыў я турыстаў, якія прыйшлі паслухаць беларускія песні і стаялі паабапал дарогі, па якой мелі карагодам ісці ў амфітэатр калектывы. Аднак расплыліся яны сярод вялікай колькасці жыхароў Беласточчыны, якія яшчэ да пачатку купальскага мерапрыемства шчыльна запоўнілі амфітэатр і ў галоўным саставілі клімат «Купалля» ў Белавежы.

З-пад Белавежскага асяродка культуры ў карагодзе ішлі ў амфітэатр беларускія калектывы і неслі купальскія вянкі. Частка дзяўчат і жанчын упрыгожылі галовы вянкамі, сплеценымі з кветак. Па дарозе да шэсця далучаліся таксама асобы з публікі. Удзельнікі шэсця спявалі песню «Купалінка», якая пасля некалькі разоў гучала са сцэны. «Купалле» ў Белавежы адкрылі віцэ-старшыня ГП БГКТ Васіль Сегень і войт Белавежскай гміны Грыгорый Каспровіч, які напомніў гісторыю купальскага мерапрыемства ў Белавежы.

— «Купалле» — гэта выдатнае шматлюднае беларускае мерапрыемства, якое ў Белавежы арганізуецца ад дзесяцігоддзяў. Выраблена ўжо марка нашага «Купалля» і таму збіраецца тут так многа людзей. Да шэсця нашых калектываў з-пад Белавежскага асяродка культуры ў амфітэатр могуць далучацца людзі з публікі і так робяць. Вянкі, якія неслі нашы калектывы, пускаюцца пасля святочнага канцэрта на ваду і тады ёсць аматары вылаўліваць іх. Пускаюцца яшчэ феерверкі — сімвал агню і ўсё гэта стварае непаўторную атмасферу «Купалля», якое мы канчаем супольнай забавай, — сказаў віцэ-старшыня ГП БГКТ Васіль Сегень, які ішоў у карагодзе з калектывам «Крыніца» з Беластока. Асабліва падзякаваў ён за сумарганізацыю купальскага мерапрыемства Марку Зубрыцкаму з Белавежскага асяродка культуры, які ў Белавежы наглядаў за падрыхтоўкай да «Купалля».



Марк Зубрыцкі выйшаў на сцэну з першым выканаўцам — беларускім калектывам «Сунічкі» са Школьна-дашкольнага комплексу ў Белавежы, якому састаўляў музычны акампанемент на акардэоне. «Сунічкі» праспявалі песню «Купалінка» і іншыя творы пра прыгожасць беларускіх дзяўчат. Іх выступ суправаджалі феерверкі, якія падчас купальскага канцэрта пускаліся яшчэ некалькі разоў і былі цікавым атракцыёнам імпрэзы, якая адбывалася ночу і адметна розніласа ад іншых шматлюдных мерапрыемстваў арганізаваных БГКТ днём.

— Ужо дзейнічаюць тры групы нашага калектыву «Сунічкі». Найстарэйшая група пачала выступленне песняй «Купалінка». У дзетках і моладзі надзея на захаванне беларускасці ў Белавежы, — заявіла Анджаліна Масальская, настаўніца беларускай мовы ў школе ў Белавежы, заснавальніца калектыву «Сунічкі», які захапіў сабраную публіку.

Другім па чарзе выступіў народны ансамбль танца «Спадчына» з Пружан, які запрэзэнтаваў народныя танцы, прымеркаваныя, між іншым, да купальскага абраду ў сучаснай харэаграфіі. Удала прэзентаваўся ён на сцэне яшчэ некалькі разоў і заўсёды выклікаў бурныя апладысменты публікі. Сваімі моцнымі галасамі заваражыў сабраных фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Неруш» з Мінска, які выходзіў перад публіку некалькі разоў. Дзяўчаты са Студыі песні Гайнаўскага дома культуры, з вянкамі на галовах, захапілі публіку сваімі маладымі, але адначасна моцнымі галасамі. Рыхтавала іх да выступу мастацкі кіраўнік Марта Грэдаль-Іванюк.

— Нам спадабалася «Купалле» ў Белавежы, якое розніцца ад іншых беларускіх мерапрыемстваў купальскімі абрадамі захаванымі з далёкага мінулага, — гаварыла жанчына з публікі.

Моцнымі мужчынскімі галасамі заваражыў сабраных калектыў «Куранты» з Бельска-Падляшскага, якім дырыжывала Аліна Негярэвіч.

— Мы выступім з песняй «Казацкае вяселле», да якой падрыхтавалі таксама спецыяльную харэаграфію з дэталямі танцаў, а Уладзімір Весялоўскі выступіць з шабляй у ролі казака, — сказала арганізацыйны кіраўнік хору песні і танца «Васілёчкі» Ніна Бялецкая.

— Я беларускі казак і таму будзем спяваць беларускую песню пра казацкае вяселле, — заявіў Уладзімір Весялоўскі з «Васілёчкаў». Дзякуючы яго стройнаму выгляду і доўгім, падкручаным вусам сапраўды выглядаў ён як казак.

«Васілёчкі» запрэзентаваліся на сцэне займальна. Пра іх і іншыя выступаючыя калектывы і іх рэпертуар умела і з гумарам распавядалі вядучыя «Купалле» Ілона Карпюк-Дамброўская і Радаслаў Дамброўскі. Калектыў «Чыжаўяне» з Чыжоў два тыдні раней выступаў падчас купальскага мерапрыемства каля Лянева і ўдала запрэзентаваўся таксама ў белавежскім амфітэатры. 7 ліпеня ў Белавежы выступіла многа беларускіх калектываў. У гэты ж дзень «Купалле» праходзіла таксама ў Нараўцы. На белавежскай сцэне выступіў хор «Крыніца» з Беластока, які падрыхтавала мастацкі кіраўнік Гражына Валкавыцкая.

— Удзел у «Купаллі» ў Белавежы гэта для нас свята беларускай культуры і беларускай песні. Я вельмі люблю спяваць і ў «Крыніцы» выступаю разам з мужам Віктарам. Наша дачка Эмілія спявала ў «Каласках», але з-за сямейных абавязкаў спыніла ўдзел у гэтым калектыве. Думаю, што паколькі Эмілія добра спявае, яшчэ вернецца да беларускіх песень і можа нават уступіць у нашу «Крыніцу», — сказала Анна Лук'янюк з Беластока.

Пасля асноўнага канцэрта, у якім выступіла многа беларускіх калектываў і хароў з Беласточчыны і госці з Рэспублікі Беларусь, калектывы і публіка падышлі да вадаёма, распалажанага каля амфітэатра і пускалі вянкі. Віцэ-старшыня ГП БГКТ Васіль Сегень яшчэ раней запрапанаваў маладым асобам шукаць папараць-кветку. Аднак найбольш моладзі засталося ў амфітэатры, дзе была арганізавана супольная забава.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**





# Яшчэ раз пра „слуг народа”

У свеце зараз шмат пішацца і гаворыцца пра безбар’ернае асяроддзе. Гэта каб было зручна ездзіць людзям на інвалідных калясках, перамяшчаць дзіцячыя вазкі, не злазіць з ровараў пры яздзе па гарадскіх вуліцах. Нешта робіцца ў гэтым кірунку і ў Беларусі, у тым ліку і ў выніку актыўнасці грамадскіх арганізацый. Але, відаць, ні ў адной еўрапейскай краіне няма такой колькасці загароджаных тэрыторый, высачэзных бардзюраў, бетонных платоў-муроў, металічных сетак і жалезных крат, высачэзных бар’ераў, праходных з вярцелкамі і ўсялякіх розных КПП. Для тых, хто не служыў у савецкім войску, патлумачу, што абрэвіятура КПП азначае: кантрольна-прапускны пункт. Гэтыя КПП зараз не толькі ў вайсковых частках і буйных важных прадпрыемствах. Яны размешчаны паўсюдна і растуць як грыбы пасля спорнага і цёплага летняга дажджу. Часам, каб наведвальніку трапіць у нейкі кабінет, трэба прайсці некалькі пунктаў пільнай аховы. Узнікае поўнае ўражанне, што ў Беларусі надзвычай высокі ровень бандытызму. Альбо, што ўся краіна — ад вярхоўнага „глаўнакамандуюшчага” да загадчыц дзіцячага садку рыхтуецца да шматгадовай і зацятай абарончай вайны.

Возьмем да прыкладу школы. Некалькі гадоў таму ў выніку наезду і няшчаснага выпадку з вучнем выйшаў загад абгарадзіць усе школы. Па разумнаму то трэба было загарадзіць тыя ўчасткі, якія прымыкалі да дарог і небяспечных заездаў. Але дзяржаўныя ідэолагі так мысліць не ўмеюць і не хочуць. Вельмі хутка тэрыторыі ўсіх школ абгарадзілі высачэзнымі металёвымі платамі. Канешне ўсё для дзяцей — таму не з дзяржаўных бюджэтных сродкаў, а за грошы бацькоў. Гэта называецца „добровольные взносы на потребности школы”. У выніку дзясяткі новых абгароджаных зон у самым цэнтры гарадоў. Старыя людзі змушаны абыходзіць гэтыя „аб’екты”, праз тэрыторыю якіх яны раней спакойна хадзілі, нікому не замінаючы. А гэтыя грошы, якія пайшлі на высокую агароджу, маглі б патраціцца на ўпарадкаванне школьных стадыёнаў, большыня з якіх у жахлівым стане. А зараз на гэтыя стадыёны не могуць патрапіць нават тыя рэдкія жыхары навакольных дамоў, якія раней займаліся фізкультурай.

Асабліва любяць адгароджвацца ад людзей „слугі народа”. Трапіўшы ў абойму чыноўнікаў, яны адразу мусяць паказаць грамадзянам іхняе належнае месца. А ўзыходзячы па кар’ернай лесвіцы, увогуле становяцца небажыхарамі і недасягальнымі для простых смяротных. Чым вышэй установа і начальнік, тым шыкоўней інтэр’еры і мэбля. Падатковыя інспекцыі, міліцыя, суды, пракуратуры, выканкамы — усюды бляск, шык, мадэрн, часам на мяжы з раскошай. Калідоры гэтых дзяржаўных установаў, напоўненыя шматлікімі „слугамі народа”, выразна кантрастуюць з іншымі ўстановамі, прыкладам сацыяльнага тыпу.

Характэрны і сярэднестатыстычны партрэт цяперашняга чыноўніка ці супрацоўніка сілавых структур. Як правіла, гэта той, хто вучыўся ў школе і пазней дастаткова пасрэдна альбо нават нездавальняюча, роўнем бытавой культуры таксама не вылучаўся ў лепшы бок. Прымаўка „не чын паважаюць, а чалавека па яго праўдзе” для іх незразумелая. У гэтай катэгорыі людзей якраз усё наадварот.

Пераважная бальшыня з іх не валодае належна аніводнай мовай, нават расейскай, на якой размаўляе цэлы час. Калі беларускую і ведаюць, то не карыстаюцца ёй зусім у сваёй працы — адны прынцыпова, адмаўляючыся ад свайго „нізкага паходжання”, іншыя з-за страху, каб іх не западозрылі ў лаяльнасці да беларускамоўных носьбітаў.

Характэрная асаблівасць цяперашняга пакалення чыноўнікаў — гэта іх крывадушнасць. Гэта ў савецкі час усе „слугі народа” сядзелі дома і выязджалі ў лепшым разе ў краіны „Варшаўскага дагавора”. Цяпер для іх адкрыты ўвесь свет. І вось тут, у Беларусі, выканкамаўцы, чыноўнікі, начальнікі, дырэктары школ славяць усё савецкае, наш скрозь „чалавечны” дзяржаўны лад і асабліва правільны шлях развіцця, а іх дзеці, сёстры, пляменнікі і іншыя сваякі вучацца і працуюць на Захадзе — у Польшчы, Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША... Характэрная тут гісторыя з нядаўнім міністрам адукацыі, які паспяхова ўладкаваў сваіх дзяцей за мяжу. І такіх прыкладаў многа.

Цяперашняя генерацыя чыноўнікаў у РБ — гэта зусім не ранейшыя прыхадні, як гэта было ў Расейскай імперыі за царом, ці як гэта было ў Савецкім Саюзе. Гэта амаль усе — мясцовыя ўраджэнцы. Але пра гэта пагаворым неяк іншым разам.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Пустышкі з палачак і збуцвелых пёраў

Усё ўжо было, казаў цар Саламон... Праўда. Усё, што было, ёсць, неабавязкова такое ж самае, сапраўды такое ў мінулым і сучаснасці. Яго сутнасць нязменная, таму што нязменны чалавек, яго характар і схільнасці. Змяняюцца толькі знешнія мадэлі чалавечых паводзін і звычак. Мабыць, толькі яны менш вуглаватыя і менш жорсткія. Нічога іншага.

Паводле Валкагонава, армейскага палітрука з часу брэжнеўскага «застою», гісторыка і аўтара мануметальнай працы «Сталін», упадабаным выслоўем гэтага заганоўчага «Бацькі народаў» было: «Факты — упартая рэч». Сапраўды, факты немагчыма, проста так, замесці пад дыван, нахабна іх адмаўляць ці рабіць выгляд, што нешта, што было, ніколі не было. Незалежна ад таго, як ні старанна пакрыць іх звышінтэрпрэтацыйным ценем, разбоўтаць іх значэнні, прымяншаць ідэалагічныя кантэксты, яны па-ранейшаму выхінаюць на сваю шчырую, простую морду. З прачытанага ў Валкагонава дастаў я некалькі іншых цытат: «Мінулае не тэатр ценяў: там пануе не слабасць, а незваротнасць». «Сталін не любіў, аднак, зазіраць у мінулае, калі яно глядзела на яго з папрокам» ... І, нарэшце, самая цікавая рэфлексія, якая адбіваецца трывалым узорам на сучаснасці. І, напэўна, на ўсе часы: «Сталін імкнуўся аднавіць у пасляваенным грамадстве атмасферу падазронасці, страху, „палявання на ведзьмаў”, ён ведаў, што там, дзе пагражае пастаянная небяспека ад ворагаў як унутраных, так і знешніх, патрэбны моцны лідар, „жорсткая рука”, рашучае кіраўніцтва. Гэтую старую таямніцу ўсіх дыктатараў Сталін выявіў даўно. Калі ў грамадстве няма ворагаў, людзей з рознымі поглядамі, няма ніякай барацьбы, дык нашто яму ён, дыктатар?».

Класавыя ворагі, ці як іх там называць, але «ворагі», заўсёды ўзнікаюць там, калі асобныя асобы або групы вузкіх інтарэсаў узурпуюць сабе ўладу над грамадствамі. Уладу ў імя прапаведаваных сабой ідэй або прэзумпцыі ўласнай геніяльнасці. Такую ўладу не дастаюць фактычна грубай сілай, хоць часам бывае яна прыдатная пры яе ўмацоўванні. Ужо ў пачатку стагоддзя сацыёлаг Жорж Сарэль сфармуляваў тэзіс, згодна з якім масы схільныя бяздумна верыць у ірацыянальныя міфы, якія не патрабуюць абгрунтавання. Міфы, пісаў Сарэль, даюць інтуітыўнае ўяўленне пра нешта такое, як мара, ідэал, мэта. Міфы неабавязкова зразумець, дастаткова, каб у іх верыць. Так уладу над людзьмі здабываюць шляхам міфаў.

Я нічога тут не хачу называць па імені. Хай кожны Чытач хоча ласкава назваць тое, што вырабляецца зараз у Польшчы, у адпаведнасці з яго ўласным сумленнем і інтэлектуальнай пранікліваcцю. Спасылаючыся на тэзіс Сарэля, дазвольце мне працытаваць яркі прыклад фарміравання міфаў. Чытаючы калісьці навуковую працу з галіны культурнай антрапалогіі, натрапіў я на апісанне своеасаблівага звычаю, запісанага даследчыкамі ў сярэдзіне дваццатага стагоддзя. Яны выявілі на адным з ізаляваных астраўкоў цывілізацыі дзіўныя паводзіны мясцовых жыхароў. Але трэба пачаць з самага пачатку... Некаторы час таму на выспе здзейсніў аварыйную пасадку невялікі самалёт, якога ніколі не бачылі блізка тубыльцы. З іх інтэлектуальнага і культурнага пункту гледжання, гэта быў вялікі птах, на якога ўзабраўся белы чалавек. Чалавек саскочыў на зямлю, таропка пакалупаўся ў самалёце і паляцеў. Праз некалькі дзён у месцы пасадкі самалёта тубыльцы сталі будаваць з палак, пёр і сухіх лістоў бананавага дрэва акуратны манекен. Цяпер яны пільнавалі яго. Нічога не гаварылі — стаялі моўчкі. Часам хтосьці непрыкметна пазіраў на неба, але гэта доўжылася хвіліну. Таму што справай не было неба, а спадзяванне. Вяртаўся паглядам да пустышкі, і ўсё гэта. У любы час, кіруючыся калектыўным імпульсам, усе адпраўляліся ў свае хаціны, некаторыя неахвотна, іншыя рашуча, заклікаючы адзін аднаго. Пустышка самалёта, напэўна, не была аб’ектам паклонення тубыльцаў. Яны толькі сыходзіліся да яе ў пэўны момант, альбо паасобку, альбо ў невялікіх групах, кожнага вёў да гэтага месца які-сьці вонкавы ды нячутны кліч. І так кожны дзень... яны ўглядаліся ў кучку галля і старога пер’я. Чаму? А мы — дык чаму?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Мяжа вечнага чакання

Чаканне і падарожжа сплецены з сабою неразрыўна. Першапачаткова чакаем, каб ва ўласцівы момант купіць сабе самую танную экскурсію ці гасцініцу. Потым чакаем спрыяльнага надвор’я, якое мае прынесці задавальненне кожнаму з нас. А тут, вядома, нікому не дагодзіш. Ну і кульмінацыя — чаканне добрага адпачынку, які прынясе нам жыццярадасны зарад на доўгія дні. Яшчэ, каб такое збылося, трэба абавязкова прыбыць на лётнішча дзве гадзіны загадзя і пасля рэгістрацыйных працэдур урэшце ўтрапіцца на борт самалёта. Чакаем і ў зваротнай дарозе ці часам пра нас не забудзецца збанкрутаваная якраз турфірма, што прадала самую танную пуцёўку. Чаканне ў нервах, хваляванні і клопатах гэта неад’емны сцэнарый такой дарогі. Менавіта такія моманты проста стамляюць чалавека, становяцца яму папярок горла. Чаканне ўкладзена проста ў філасофію і сам змест падарожжаў. Падчас іх чакаем аўтобусаў, цягнікоў, яды і тым падобных спраў з яшчэ большым азартам. А калі гэта ўсё пачынае спазняцца, то ўсе нашы ранейшыя лагістычныя апарацыі развальваюцца, быццам картачныя домікі. Невядома чаму, але гэта так ёсць, што менавіта ў час летніх падарожжаў раптам цягнікі пачынаюць спазняцца не на пяць ці дзесяць хвілін, а проста мінімум на шэсцьдзясят. І не растлумачыш, ці апраўдаеш усяго летнімі рамонтамі. Таму людзі перад такімі падзеямі, нягледзячы на сваю часта непрыязнасць і штодзённую насмешлівасць да свету колішніх павер’яў, пачынаюць раптам іх узгадваць. Адным з такіх мне вядомых і шырока практыкаваных перад падарожжам звычаяў з’яўляецца абавязковая патрэба прысесці і памаўчаць праз хвіліну. Ну і, вядома, пагрозу для шчаслівай паездкі стварае чорны кот, які перабяжыць перад машынай, ці ў мінулым вясковым — пераход праз вуліцу перад фурай жанчыны з пустымі вёдрамі. Адным словам, для роду чалавечага кожнае падарожжа — гэта стан павышанай рызыкі і часам чакання зусім непрыемных ситуацый.

Але ёсць яшчэ адзін від чакання — самы гардкорны і вельмі вядомы аматарам вандровак праз польска-беларускую ці польска-ўкраінскую мяжу ў яе двухбаковым вымярэнні. Нічога тут, апрача пабудаваных і разбудаваных пагранпераходаў, у сэнсе аднаго вялікага пытальніка праз час перасякання мяжы тут не вызначыш. Усё тут умоўнае і бязмежнае — час плыве, а праца найчасцей рэгулюецца толькі і выключна фанабэрыстасцю працоўных там памежнікаў і мытнікаў. Кожны, хто хоць раз перасякаў такую мяжу, добра ведае, якія неспадзяванкі і выклікі могуць нас там сустрэць. А то не толькі дакументы, не такія пячаткі. У беларускім варыянце асабліва небяспечна везці беларускія кнігі ці газеты. Нагляды, спісы забароненых тавараў і іх вага, колькасць паездак і аб’ём салярыкі ці бензіну складаюць ужо тоўстыя кнігі. А людзі ўсё ж едуць і едуць. Цягнуцца да лепшага, каб падзарабіць, з’ехаць за працай, ці паехаць проста адпачыць. І то на маю думку найбольш раздражняе ўладароў пагранпераходаў. Дакументаў на забарону, хоць адбаўляй, а людзі едуць і едуць. І не меншае іх. Ходзяць тады тыя паны раззлаваныя і ліхія, а кожны падарожнік чакае памілавання з іх боку. Толькі каб урэшце чарга пачала неяк рухацца ўперад. Тырчаць па некалькі гадзін у адным месцы можа проста давесці да адчаю. Ведаю такіх людзей, што падарожнічалі толькі рэйсавымі аўтобусамі, якія маюць у гэтым выпадку таксама прыблізны час пераезду і запраўляліся спіртным перад дарогай так моцна, быццам «фальксваген-бочка» саляркай, каб праспаць чаканне на мяжы. Думка можа і цікавая, але паслядоўнасці такога выбару для камфорту сну, пасажыраў і злосць мытнікаў прыводзіла да яшчэ больших накаў.

У апошнюю нядзелю, вяртаючыся менавіта з Украіны, у чарговы раз спазналі мы апрача смаку ўкраінскага сала, лёгкага страсення нерваў нашаму шафёру ад традыцыйных разбітых украінскіх дарог, поўнага неразумення чакання ў чарзе дзеля чакання. «Абое, рабое» — паўтараюць і ціха, і голасна людзі, ацэньваючы працу візітнай і ўдарнай сілы кожнай дзяржавы. Мне ў чарговы раз заставалася чытаць толькі лістоўкі як нас сардэчна чакаюць суседзі.

**Яўген ВАПА**

# Насуперак слотам — Бандароўская гасцёўня!

**Васямнаццаты раз прайшоў традыцыйны народны беларускі фэст „Бандароўская гасцёўня” (14 ліпеня). Ладзіць яго непадалёк берага Семяноўскага вадасховішча, у бандарскім «амфітэатры» актыў вёсак Бандары, Рыбакі і наваколля, на Падляшшы, у Міхалоўскай гміне, разам з Беларускім грамадска-культурнымтаварыствам, пры падмацоўцы перш за ўсё Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове, пажарнікаў і тутэйшых спонсараў.**



Акружалі ўвесь Беластоцкі павет навальнічныя хмары, ішоў праліўны дождж, але ў той дзень над Бандарамі свяціла яркае ліпнёвае сонца. «Каб было надвор’е для вашага мерапрыемства, — тлумачыла жартам арганізатарам наступных мерапрыемстваў солтыска Марыя Бура, — трэба з’ездзіць, памаліцца ў Ялоўку і Юшкаў Груд. І цудоўнае надвор’е гарантавана!» А, можа, прыдаюцца іншыя падпушчанскія загаворы? «Чарадзеі» смяяліся ад вуха да вуха і паддзыгвалі ў рытм беларускай музыкі разам з усёй маладой і пасівелай публікай, пазіруючы на адмысловы рагаты каравай, сімвал вяселля і багацця, які красаваўся перад сцэнай.

Фэст у Бандарах з’яўляецца працягам беларускіх фэстаў, якія ад больш за шэсць дзясяткаў гадоў збіралі шматлюдную публіку тутэйшую і «зарэчанскую». Як казаў адзін з найактыўных арганізатараў свята, Віктар Бура родам з Рыбакоў, адзін з задумшчыкаў фэсту: «Гэтае беларускае свята ладзіцца, перш за ўсё, для людзей, якіх перасялілі ў Бандары з пяці вёсак, затопленых дзеля пабудовы Семяноўскага вадасховішча. У гэтым ліку — і мая асоба. Між іншым я прыдумаў першы фэст. Прыходзіў сюды, сустракаўся з людзьмі. І вырашылі штосьці рабіць, каб людзі не сумавалі. І вось пачаліся тут спевы, беларускі фэст. Людзі прыязджаюць, ідуць на возера і дзівяцца тым месцам, дзе зараз бушуе вада, успамінаюць свае хаткі, свае паселішчы”. Старшыня БГКТ Янка Сычэўскі адзначае, што свята апіраецца на традыцыю ды актыўнасць саміх бандароўцаў: „Гэтае асяроддзе абсалютна выключнае ў тым сэнсе, што асабліва актыўнае. Гэта асабліва гасцінная мерапрыемства».

— А гэта асабліва адданыя людзі, на якіх можна разлічваць у любой сітуацыі, — кажа солтыска Бандароў Марыя Бура. — Анна Хлябіч, Мікола Хлябіч, Мікола Хлябіч-старэйшы, Ян Бароўскі — наш радны, яго жонка Ірэна Бароўская, Марыя Хлябіч, Віктар Бура з жонкай Нінай, Ніна Млынэк, Раман Ляткоўскі з жонкай Алінай, Эва Хлябіч з мужам Яркам, Лявон Хлябіч з жонкай Вяславай, Ян і Зофія Хлябічы і іх сыны з Ольштына. Анна Хлябіч уключыла дачку сваю Олю з яе нарачоным... Далучылася да нас дырэктарка Дома сацыяльнай апекі Галіна Саковіч. Яе падапечныя, інваліды, так хораша выступілі на нашай сцэне з прадстаўленнем пра купалле.

Імпрэза пачалася яшчэ да канцэрта, які пачаўся ў 17 гадзін выступленнем гарбароўцаў. Дзеці гулялі ў агародзе гульняў, вельмі міла і прытульна абстаўленым. Яшчэ далёка да пачатку імпрэзы гледачы заселі на лавах амфітэатра, віталіся, цалаваліся, успаміналі. Цікавіліся вырабамі рукадзелля, размаўлялі з творцамі, частаваліся стравамі рэгіянальнай кухні. Малечы, смакуючыя ласункі, гулялі купленымі цацкамі, шарамі... Проста фэст — народнае гулянне, якое прывабіла аматараў роднай песні з Гайнаўскага і Беластоцкага паветаў і з далейшых месцаў. Як у песні сямятыцкага «Аморфаса», які заспяваў (словы Міры Лукшы, музыка Алены Шчыгол) эмацыянальна: *Падляшскі наш край, ты мяне таксама не забывай... Сюды я вярнуся з далёкіх дарог, пасля паражэннäў, пасля перамог*...

У гэты раз малавата было турыстаў, якія шукалі твораў тутэйшых аўтараў на польскай мове, матэрыялаў пра Беласточчыну, каб паказаць у сваёй малой айчыне тутэйшыя своеасаблівасці. Заўсёды набываюць яны ў Бандарах вырабы нашых майстроў-рукадзельніц. Між іншым — таксама прыезджай, але ўжо свойскай Малгажаты Краўчык з Плянты, Галіны Бірыцкай з Плянты, Анны Кузьмы з Міхалова, Тамары Зубрыцкай з Гушчэвіны... А на фэст, вядомы ў Польшчы з календара летніх фольккавых мерапрыемстваў, прыязджаюць рукадзельнікі і цукернікі з іншых мясцовасцей, напрыклад, з Любартова.





— Я раблю ўсё ў драўніне, — кажа Тамара Зубрыцкая. — Дэкупаж, маляванкі, выпалянкі... Выхвальваем роднае — Семяноўка, Белавежа... Перш за ўсё Нараўчанскую гміну, суседнюю з Міхалоўскай, вось там за возерам. Навучылася я ад свайго мужа Толіка, калісь рабілі мы ў «Цэпэлію». Належу да Агратурыстычнага згуртавання «Белавежская пушча» ў Нараўцы, як пані Галіна і Малгажата, выдаем буклеты згуртавання, калі хто цікавіцца. У іх таксама можна знайсці гасцінныя хаты нашых людзей... Запрашаем да нас!

— Калісь я сядзела дома і гафтавала, вышывала, баялася выязджаць, — заўважала Анна Кузьма. — А калі прыйдзе час, калі пачынаюцца беларускія фэсты, карціць мяне, хочацца з’ездзіць, паказацца, беларускае слова і песню пачуць, палюбавацца гэтымі строямі. Проста — роднае свята.

Далучыліся да свята ўжо чарговы раз жыхары дома ў Гарбарах (падрыхтаваныя Крыстынай Дрозд і Аляй Салавей), дэкламавалі і спявалі, можна было набыць таксама прыгожыя і прыдатныя вырабы, выкананыя падчас тэрапеўтычных заняткаў у доме апекі ў Гарбарах.

На сцэне з адмысловым жніўным малюнкам, за якой спелі нівы, з фігурыстым пірагом-караваем перад ёю, перад шматлюднай публікай паявіліся беларускія калектывы, вядомыя з беларускай эстраднай і фальклорнай сцэны. Новыя «Чырвоныя шпількі» і «Фенікс» з Міхалова (вядзе іх Марыюш Харужы), і заслужаныя для беларускай культуры «Асенні ліст» і «Расспяваны Гарадок» з Гарадка, «Чыжавяне» з Чыжоў, «Аморфас» з Сямятыч, якія прадставілі па тры творы са свайго рэпертуару. Захапіў вакальна-харэаграфічны ансамбль «Белы птах» з Мінска пад кіраўніцтвам Вольгі Жышкевіч, не першы раз у нас бачаны і чуты. Усе гэтыя і іншыя калектывы можна ўбачыць і пачуць на беларускіх фэстах на Беласточчыне, арганізаваных перш за ўсё БГКТ. І ўсюды на гэтых мерапрыемствах убачым знаёмыя твары гледачоў, якія едуць усюды, дзе толькі чуваць беларускую песню.

— Паслухаеш родную песню — і жыць хочацца! — кажа бабуля Маня на лавачцы пад бандарскімі блёкамі. Не відаць ужо некаторых з іх, заўсёднікаў фэстаў, што сядзелі на лавачках вечарамі і ў святы, прыгожа апранутыя, як у царкву. Людзей, выселеных з вёсак з «чашы» Семяноўскага вадасховішча. — Занялі ўжо сваю лавачку сярод хмар над возерам», — кажа жонка вясковага паэта з сяла Бандары, і сляза сцякае па яе шчацэ. Яна жыве ў вёсцы, а на Аседле, да блёкаў, што высяцца перад лугамі і палямі, у амфітэатр прыйшла з «сяброўкай» — палачкай.

Аляксандр Кардаш ужо выдаў свой альбом пра людзей і хаты з затопленых вёсак і аколіцы.

— Я з гэтым вадасховішчам звязаны ад самога пачатку. А з гэтай зямлёй — ад свайго нараджэння. Мая бабуля — з вёскі Боўтрыкі. Людзей з бабулінай вёскі вывезлі, а хаты залілі вадой. А я жыву ў Бандарах, працую пры эксплуатацыі. Сабраліся тут таксама тыя, што перажылі тое высяленне з родных гнёздаў. Сустракаюцца на беразе былой вёскі Рудні, каля адыходнага крыжа, каля месца былой школы ў Луцэ. Цягне іх да свайго, нават калі яго няма. Шкода, што выдавец альбома пра наша роднае моцна мне яго працерабіў. Адкінуў шмат матэрыялаў, не згадзіўся даць тэкстаў, подпісаў пабеларуску. А гэта ж кніжка на стагоддзі! Як то кажуць, дзе наша не прападала. Але сабранае мною не прападзе. Людзі свае хаты пазнаюць: «О, наша хатка! Там мая мама стаіць! А з каторага года гэты здымак?» Я ў інтэрнэт не даваў гэтых матэрыялаў. Да гэтай пары «выдаваў»тыя кніжкі «вясковыя», для паасобных вёсак — ксеракры рабіў. Людзі мяне прасілі. Матэрыяламі іншыя карыстаюцца ў сецціве. Добра, што хоць дадаюць мае ініцыялы «КА» — Кардаш Аляксандр праўдападобна «выдаў», дадумваюцца. ... Добра, што кніга хоць у такім выглядзе выдадзена. Першая такая кніга нашай старонкі. І з гэтага берага рэчкі, і з другога. Хаця яны між сабою калісь... біліся. Як і дзяўчаты: «Не пайду за рэчку замуж, там другая старана. Бо ў нас гавораць «ён, яна», а ў іх гаворат «вуон, вана». Так і было. Біліся, і добра зналіся, у выпадку якой бяды маглі на сябе разлічваць, дапамагалі адны адным. І гулялі. А цяпер вось тут гуляем. Слёзы сушым. А нявыкарыстаны матэрыял, здымкі, размовы, успаміны, сабраныя мною для кнігі, спадзяюся ўсё-такі выдаць. Гэта мой доўг перад землякамі.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

Міра ЛУКША

## Мак

Мак у полі
сярод жыта,
мак у агародзе,
як той брат маленькі красны,
што скраў яго злодзей,
зглуміў, пабіў, усмярціў заўчасна,
але той вярнуўся,
праз агонь, зямлю на волю,
да сябе вярнуўся,
уваскрос над глебай, красны,
чырвоны як воля,
з чорным сэрцам, што жывое,
б'ецца па-над полем,
бы матыль пялёсткам рвецца
ў неба па-над краем.
Сыплюць макавінкі дзеці,
і ваду баўтаюць,
каб вярнуліся з нябёсаў
на палеткі родныя
кроплі жыццядайных росаў
з хмараў паўнаводных.
Зернем маку абсыпалі
прашчураў магілы,
каб іх добра захавалі
ад пошасці зброднай.
У чаравікі нарачонай
пад вянец усыпалі,
каб багата і ўрадліва
шчаснасць засявалі.
Братку-маку, харашуне,
квітней на загонах,
каб нам шчасце не заснула
на падляшскіх гонях.

# Праблемы з надвор'ем

**Сёлета надвор'е здзіўляе і не распешчвае. Гарачая і сухая вясна, халодны пачатак лета. Такое надвор'е прынесла праблемы земляробам і гмінным управам.**

29 чэрвеня г.г. на сесіі Гміннай рады ў Орлі справу засухі закрануў войт Пётр Сэльвесюк:

— Хачу акрэсліць свае адносіны да пытання засухі. Маем дачыненне з сітуацыяй, якая павінна быць вырашана сістэмна. З аднаго боку маем сялян, якія напэўна пацярпелі земляробчыя страты і зараз падаюць заяўкі для ацэнкі пасяўнога ўрону. І гэтыя заяўкі маштабныя, на цэлыя палеткі. Пазаўчора была заяўка ад жыхара Кашалёў на арэал 297 гектараў, сёння была заяўка з вёскі Крывая на больш за сто гектараў, былі таксама заяўкі з вёскі Спічкі на некалькі сотак гектараў.

Не ведаю, навошта такая сістэма, чаму тыя ацэнкі маюць служыць.З аднаго боку чуем, што магчыма будуць нейкія льготы, звальненні, даплаты. Але хачу сказаць, дзеля ўсведамлення вам, што гміна — і не толькі наша — не атрымала на гэты момант ніякіх грошай дзеля дапамогі земляробам. Гэта па-першае.

З выказвання падляшскага віцэ-ваяводы даведваюся, што гміны гатовыя да вырашэння гэтых праблем. Гэта — кажучы вельмі лагодна — стварэнне нейкай новай рэчаіснасці. Тое, да чаго гміна абавязана — гэта вызначэнне сваіх прадстаўнікоў у камісію па справах ацэнкі страт. Апрача гміны, паводле законаў, сваіх прадстаўнікоў падаюць асяродкі сельскагаспадарчай кансультацыі, КРУСы, Падляшская сельскагаспадарчая палата.

Заяўку на адрас ваяводы на стварэнне такой камісіі выслалі мы 27 чэрвеня, бо гэта не войт стварае такую камісію, толькі ваявода; і да таго часу не мелі мы з Падляшскай сельскагаспадарчай палаты. Былі тэлефоны солтысам, каб удзельнічалі ў працах тых камісій. Бо добра, калі нехта далучыцца, але хачу таксама сказаць, што такая ацэнка не зойме паловы дня. Агульна ацэньваючы — бо заяўкі паступаюць пастаянна — зараз для ацэнкі маем 700-800 гектараў на тэрыторыі Арлянскай гміны; значыць гэта будзе праца на некалькі месяцаў, праца бязвыплатная. Учора ваявода прыслаў мне паведамленне пра стварэнне такой камісіі, дзе напісаў, што войт мае забяспечыць працу гэтай камісіі ды запэўніць транспартны сродак. Разважляў я з нашым сакратаром і выступім да ваяводы з запытаннем, на аснове якіх юрыдычных актаў войт мае запэўніць камісіі транспарт. У мяне наццаць чыноўнікаў, якія маглі б гэтым займацца; з Управы заяўлена тры асобы і гэта будзе дэстабілізаваць працу ўправы. Спадзяюся, што заявак будзе на прыблізна тысячу гектараў і мы, як гміна, не маем на гэта ніякіх дадатковых грошай.

Солтыс Дыдулёў Антон Голуб:

— Войт прадставіў сітуацыю з засухай. Усе гектары закранула засуха. Селянін выдаткаваў сродкі, а збяро — скажам — 50%. І яшчэ невядома, як далей будзе. Да гэтай пары была засуха, а можа быць і так, што немагчыма будзе сабраць ураджай. Міністр абяцае, што будуць нейкія квоты індывідуальна, але будуць яны ці не будуць, то ацаніць страты мусова. Калі дбаем пра жыццё, то тут некаторым перашкаджаюць вышкі мабільнікавых станцый, перашкаджае краёвая дарога цераз Малліннікі... А як сёння жыць без дарогі, без тэлефонаў? (Тут прамоўца аднёсся да заўвагі Аляксандра Сцепанюка з Маліннік, які сказаў, што жыхары вёскі занепакоены, што ў іх ужо дзве мабільнікавыя вышкі, а мае быць і трэцяя, што буйнее рух на рамантаванай краёвай дарозе...).

На словы солтыса коратка адказаў старшыня Гміннай рады Аляксандр Клін:

— Усе ў краіне ведаюць, што маем засуху і якія страты панясуць сяляне. Дзеля чаго тады ўскладаюць нейкія дадатковыя абавязкі на гміны?

Антон Голуб:

— Маю просьбу. Ёсць, напрыклад, грошы з Еўрасаюза на такія задачы. Справа ў тым, каб падумаць пра генеральную меліярацыю палёў. Бо бачым, што тое, што ў мінулым годзе затаплялася, сёлета высыхае. І пасля правядзення меліярацыі падумаць пра камасацыю грунтоў. Бо зараз тых уліковых участкаў столькі, што ў галаве не месціцца. І добра было б пра гэта падумаць.

На гэта абурыўся Ілья Каліна, радны з Кашалёў:

— То калі ў мяне адзін гектар поля, то і той забраць у мяне!? (У зале раздаўся кароткі смех).

Міхал МІНЦЭВІЧ

## Сухія тапалі...

...стаяць паабапал павятовай асфальтавай дарогі са Старога Ляўкова ў Лешукі ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. Больш дваццаці такіх тоўстых старых дрэў пазначана здалёк відавочнай чырвонай фарбай. Ужо даўно пара іх ссячы. А так тры тапалі напорысты вецер зваліў на маставую вышэйзгаданай дарогі і тады іх сцягнулі на абочыну шашы. Тут іх і пакінулі. Што там, няхай ляжаць.

З сухіх тапаляў галіны падаюць у роў (іх тут шмат), а то і дзе папала. Ехаць сюдою небяспечна. Праўленне павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы павінна як мага найхутчэй управіцца з засохлымі дрэвамі пры даволі рухлівай дарозе.

Варта дадаць, што зараз абочыны гэтага адрэзка шашы пазарастаны густымі і высокімі алешнікавымі зараснікамі. Гэтак сама і на скрыжаванні дарог. Калі той ці іншы дзікі лясны звер выскачыць на маставую з кустоўя перад хутка едучым аўтамабілем (а звяры — цяпер іх многа — нават часта перабягаюць праз дарогу), ён будзе забіты або паранены. А ці так павінна быць? Што думаюць на гэты конт у гайнаўскім ППД?

# Летні фэст у Ляўкове

12 ліпеня гэтага года ў Стараляўкоўскай парафіі традыцыйна ўжо святкавалі Пятра і Паўла. Сёлета ўпершыню ў набажэнстве ўдзельнічаў праасвяшчэнны Павел, епіскап гайнаўскі. Была гэта важная падзея ў гісторыі парафіі. У гэты дзень у Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны традыцыйна ладзілі беларускі фэст.

Культурна-забаўляльнае мерапрыемства адкрыў Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны. Сардэчна прывітаў усіх удзельнікаў фэсту і зычыў ім самых лепшых музычных уражанняў ад канцэрта і пасля яго добрай танцавальнай забавы. Канцэрт вяла Кася Баляўская з Нараўкі. Першым на сцэне выступіў у прыгожых касцюмах фальклорны калектыў „Ручаёк" з Белавежы. Ён вельмі прыгожа спяваў беларускія песні. Гэта заўважылі і са сцэны сказалі маладзёвыя гурты. Некаторыя з песень сталі папулярнымі, яны ўсім спадабаліся. Гурт вядзе Марк Зубрыцкі. Фальклорныя беларускія і ўкраінскія песні спяваў таксама калектыў „Вэрвочкі" з Орлі. Мае ён прыгожыя вышываныя жаночыя касцюмы. Працуе пад кіраўніцтвам Уладзіміра Рэвы.



Здорава раскруцілі маладых у танцы эстрадныя беластоцкія калектывы „Din Dong" і „4 Ever". Яны — гурты „disco polo". Паміж песнямі з нагоды свята ад калектываў перадаваліся самыя лепшыя пажаданні ўсім Пятрам і Паўлам ды Петрусям і Паўлікам. Затым зноў і зноў плылі звонкія польскія, беларускія і ўкраінскія песні. Былі і „Вёсачка", і „Смэрэко". Усе калектывы выступілі пасьпяхова. Прыемна і весела было паслухаць у вольны час. Гледачы слухалі з-пад парасонаў — падаў дождж, бліскалі маланкі і грымела. Для прыгожых песень і выступоўцаў варта было быць на фэсце. Панавала прыемная атмасфера. Сабралася шмат людзей. Прыехалі нават жыхары далёкіх вёсак.

Пасля 20-й гадзіны вечара ішлі танцы пад спеў і гучную музыку калектыву „Аксель". Гуляла моладзь і старэйшыя.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Новы прыстрэшак

Побач царквы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета многа гадоў таму пабудавалі даволі вялікую пачакальню на тамашнім прыпынку аўтобусаў ПКС. Цяпер яна брыдкая, брудная, занядбаная. У ёй цёмна, панура і непрытульна.

Я пакрытыкаваў яе ў „Ніве" — у 36 нумары ад 3 верасня 2017 года ў допісе „Брыдкая пачакальня". 2 лютага гэтага года ў святліцы ў Старым Ляўкове адбыўся агульнавясковы сход жыхароў з удзелам раднага Ігара Бірыцкага і солтыса Старога Ляўкова Яўгена Бандарука ды войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча. Прысутныя разглядалі розныя справы вёскі і, між іншым, стан вышэйзгаданай пачакальні ў Старым Ляўкове. Вырашылі разабраць неахайную пачакальню і паставіць новы эстэтычны прыстрэшак крыхуў іншым месцы. Час няўмольна бяжыць. Калі пішу, гэта ўжо палавіна ліпеня, а зруху ніякага. Можа зараз паставіць новы меншы за папярэдні, а пасля ліквідаваць стары? (яц)

# Цётка Надзя з Маліннік



Надзеі Сахарчук з Маліннік у верасні скончыцца дзевяноста пяць гадоў. А здаецца, што нядаўна я гасцяваў у пані Надзі на дзевяноста угодках са здобнымі грыбочкамі (піражным). Парадніліся мы быццам маці з сынам. Адна душа. Раней часта сустракаліся, гаварылі па тэлефоне. Зараз мы, нямоглыя інваліды з балючымі нагамі, даўно не бачыліся, але кантактаў не парвалі. Калі я запытаў сардэчнага калегу з Маліннік Валодзю Данілюка пра цётку Надзю, дык пачуў такое: «У нядзелю жонка бачыла ў царкве на хорах. Кажуць, што з нагамі слабавата». Валодзя на адвячорку перадаў мне цёткі Надзі тэлефон, мой для яе.

— Ды як жа сябе адчуваеце, пані Надзя? — пытаю, калі пачуў знаёмы голас у трубцы.

— Слабенька. З нагамі бяда. Цяжка рухацца, — канстатуе бабулька. — У царкву Валодзя, сын, падводзіць. Дзякуй Усявышняму, памяць яшчэ не падводзіць. Песні памятаю. З харыстымкамі падляваю. Ды і за агародчыкам наглядаю. Трускалкі прапалола... А як з тваім здароўем? Даўно не бачыліся. Прыедзь, наведай. У Малліннікаx я самая старэйшая. Другая такая ў Пашкоўшчыне жыве. Гэта Надзя Таранта, мая сяброўка з дзяцінства. Для яе ў траўні скончылася дзевяноста пяць. Пэўна памятаеш пісьмаоносца Івана Таранту? Гэта яго жонка.

Вось, даражэнькія, якая гэта цётка Надзя з Маліннік. З дзявоцтва да спелыя гады — пявуння. Скарбніца народнай песні і традыцый старадаўніх абрадаў, якія адыходзяць у вечнасць разам з пакаленнямі. Дай Бог ёй моцнае здароўе на многія лета!

Уладзімір СІДАРУК

# Гайнавяне пераможцамі Фестывалю Акуджавы



**Студыя песні Гайнаўскага дома культуры і яго салістка Іза Карчэўская з Чыжоў сталі раўнапраўнымі лаўрэатамі першага месца V Міжнароднага фестывалю паэтычнай песні імя Булата Акуджавы «Вера, надзея, любоў», які быў арганізаваны з 5 па 9 ліпеня Грамадска-культурным аб'яднаннем «Ігранне без межаў» з Беластока пры падтрымцы самаўрадавых улад. Яго конкурсная частка адбылася 7 ліпеня ў ГДК. З ліку 16 канкурсантаў камісія, у якой працавалі спявачка, журналістка і яе старшыня Іаанна Равік, ініцыятар і галоўны арганізатар фестывалю Анатоль Баравік і ўдава па паэце і патроне фестывалю Вольга Акуджава, вылучыла пераможцаў. Яны займальна запрэзентаваліся побач зорак фестывалю падчас гала-канцэрта, які ў сонечнае надвор'е прайшоў 8 ліпеня ў гайнаўскім амфітэатры. Зоркі фестывалю выступалі таксама падчас фестывальных канцэртаў у Варшаве, Беластоку і Шапятове.**

■ Студыя песні Гайнаўскага дома культуры і яго салістка Іза Карчэўская з Чыжоў (першая злева) сталі раўнапраўнымі лаўрэатамі першага месца Міжнароднага фестывалю паэтычнай песні імя Булата Акуджавы «Вера, надзея, любоў»

— Сёлета быў вельмі высокі ўзровень конкурсных слуханняў фестывалю, а на гэты ўзровень запрацавалі перш за ўсё дзяўчаты са Студыі песні Гайнаўскага дома культуры, якія занялі першае месца, як і іх салістка Іза Карчэўская. Трэцяе месца заняла Юліта Ваўрашук з Гайнаўкі (выпускніца Студыі песні ГДК — А. М.), якая таксама добра спявала і толькі раздзяліў іх Марэк Яраш з Суража, што заняў другое месца. Вылучэнні атрымалі дуэт гайнавян Збігнеў Будзынскі і Яраслаў Кавальскі ды Максім Іўкін з Мінска, з Беларусі. Усе пераможцы заспявалі падчас конкурсных слуханняў вельмі добра, — заявіла старшыня конкурснай камісіі Іаанна Равік.



■ Анатоль Баравік, ініцыятар і галоўны арганізатар фестывалю

— Міжнародны фестываль паэтычнай песні імя Булата Акуджавы «Вера, надзея, любоў» разросся, але мы вырашылі, што канцэрты будуць бясплатнымі і даступнымі для як найбольшай колькасці публікі, каб падчас іх можна было прапагандаваць творчасць і ідэі Булата Акуджавы, што яднаюць нацыі па-над падзеламі, — сказаў Анатоль Баравік, старшыня Грамадска-культурнага аб'яднання «Ігранне без межаў», якое арганізуе фестываль.

— Я вельмі цешуся першаму



■ Максім Іўкін з Мінска

Гала-канцэрт са сцэны гарадскога амфітэатра адкрылі Вольга Акуджава, якая падзякавала публіцы за зацікаўленне творчасцю яе мужа, галоўны арганізатар фестывалю, бард Анатоль Баравік і бургамістр Ежы Сірак. Анатоль Баравік і доктар Павел Грабоўскі папрасілі ўспамагчы дзейнасць Анкалагічнага госпіса ў Новай Волі, які гайнавяне ўспамагалі таксама падчас папярэдніх выпускаў фестывалю. Валанцёры з Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы разам са сваёй настаўніцай-бібліятэкаркай Ірэнай Ігнатовіч збіралі ў скарбонкі грошы на госпіс сярод публікі, якой многа сабралася ў амфітэатры. Перад выступамі на сцэне традыцыйна ўзляцелі ў паветра блакітныя паветраныя шары і дзіцячы хор «Шышкін лес» Прыхода нараджэння святога Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы разам са сваім дырыжорам Паўлінай Скепка і пад акампанемент на гітары Яцка Дружбы пачаў гала-канцэрт песняй Булата Акуджавы пра сяброўства. Перад публікай займальна запрэзентаваліся мінулагодні лаўрэат фестывалю гайнавянін Ян Сябешук і сёлетнія лаўрэаты. Пазней захапілі сабраных зоркі фестывалю, сярод якіх былі замежныя госці — Тэатр паэтычнай песні «La chanson» з Сумаў (Украіна), Валеры і Святлана Марчанка з Роўнага (Украіна) і Андрэй Крамарэнка з Масквы (Расія) — добравядомыя ў сваіх краінах і малавядомыя ў Польшчы. Пра іх дзейнасць распавядаў Анатоль Баравік, які вёў гала-канцэрт і расказваў пра Булата Акуджаву і яго творчасць, а таксама сам спяваў перад публікай горада, у якім узрастаў, песні на творы Булата Акуджавы. Сабраным спадабаліся таксама выступы зорак з Польшчы — калектыву «Пірáміды» з Гданьска і калектыву «Sweet Hilo Night» з Беластока.

месцу за сольны выступ і за спеў нашага калектыву. Не спадзявалася я такога майго і калектыўнага поспеху, — сказала спявачка Студыі песні ГДК Іза Карчэўская, сёлетняя выпускніца Гімназіі ў Чыжах, якая будзе працягваць вучобу ў Гайнаўскім белліцэі. У Студыі песні ГДК спявалі яшчэ Зося Філіпюк, Катажына Дружба, Дарота Штыллер, Ванда Гіншт, Магда Люнда і Мартына Белавежац.

— Асабліва радуе нас, што перамаглі мы ў фестывалі, змагаючыся за першынство разам з яго дарослымі ўдзельнікамі, якія спявалі на высокім узроўні, — сказалі дзяўчаты са Студыі песні ГДК Зося Філіпюк, Ванда Гіншт і Катажына Дружба.

— Я вельмі рада поспеху Ізы і іншых маіх дзяўчат са Студыі песні, якія занялі першае месца і поспеху Юліты Ваўрашук, выпускніцы нашай студыі, у якой вялікія вакальныя магчымасці. Камісія звярнула асаблівую ўвагу на культуру спеву, зразуменне і інтэрпрэтацыю творчасці Акуджавы маімі дзяўчатамі, — заявіла Марта Грэдаль-Іванюк, якая як мастацкі кіраўнік Студыі песні ГДК атрымала спецыяльнае вылучэнне за прафесійную падрыхтоўку дзяўчат са студыі да фестывалю імя Акуджавы.

— Я піяніст і мастацкі кіраўнік гурта «Балцкі субстрат», у якім таксама іграю на гітары. У маім бацькоўскім доме песнямі Акуджавы захаплялася мая мама і зацікаўленасць творчасцю Акуджавы я пераняў ад яе. Даведаўся я пра гайнаўскі фестываль ад сябра, што працуе на Радыё Рацыя і прыехаў сюды з іншага музычнага фестывалю без гітары, якую пазычыў у Марка Яраша, што заняў тут другое месца. Спяваў я па-беларуску песню Акуджавы «Музыкант», твор «Хада» Віктара Сямашкі і рады, што атрымаў вылучэнне, — сказаў Максім Іўкін з Мінска, які ў час гала-канцэрта спяваў з акампанементам Яны Шыфрынай з Тэатра паэтычнай песні «La chanson» з Сумаў.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

## Мы з „Нівай" зімой і летам

У некаторых вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета „Ніва" карыстаецца даволі вялікай зацікаўленасцю. „Ніву" № 25 ад 24 чэрвеня гэтага года прачытала 17 жыхароў Альхоўкі, Новага Ляўкова, Новін і Плянты.

26 нумар роднага часопіса ад 1 ліпеня гэтага года ў Альхоўцы, Новым Ляўкове, Старым Ляўкове і ў Плянце прачыталі дзевяць асоб. Мне таксама вядома, што яго чыталі дочкі мае сястры Аліна Клімчук і Галена Грыка, якія жывуць у Беластоку. Яны купілі па адным яго экземпляры.

„Ніву" № 27 ад 8 ліпеня гэтага года чыталі Юрка Бельскі з Ахрымоў, Канстанцін і Марыя Целушэцкія ды Ніна Галубоўская з Новага Ляўкова, Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў, Канстанцін Ярошук з Новін, Тамара і Віктар Сухадолы ды Мікалай Сухадола з Падляўкова, Валянціна Самойлік, Галіна Бірыцкая і Надзея Кот з Плянты, Ян і Таіса Драўноўскія з Міклашэва ды Зіна Пацэвіч з Нараўкі. Я быў з „Нівай" у іх. Зараз маем доўгія летнія дні і мне хапае часу на тое, каб наведаць ніўскіх чытачоў, вядома, калі яны дома. З'ездзіў я на ровары ў шэсць вёсак.

Зараз збіраюся паехаць у вёскі, якія па дарозе з Нараўкі ў Семяноўку цераз Альхоўку, між іншым, у Забрады, Прэнты (зараз гэты маланаселены пункт далучылі да Семяноўкі) і ў Пасекі. У Забрадах жыве Тамара Скепка, якая прыгожа вышывае і малюе (я быў на выстаўках яе карцін і гафту ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы і тады рабіў фотаздымкі дні пісаў у „Ніву"). У Прэнтах, як я нядаўна даведаўся, тамашняя жыхарка Вера Лукашук вядзе пункт скупкі лекавых зёлак (такіх пунктаў усяго тры ў Нараўчанскай гміне — у Баб'яй Гары, Прэнтах і ў Скупаве). У Пасеках я быў аднойчы летам з конкурснай камісіяй, якая ацэньвала, між іншым, найпрыгажэйшыя прыдамашнія кветкавыя агародчыкі і парадак на сялянскіх панадворках. Варта дадаць, што ў мінулым годзе Тамара Скепка і яе муж Ян занялі першае месца ў гмінным конкурсе на найпрыгажэйшы прыдамашні агародчык.

У кожным з вышэйзгаданых нумароў „Нівы" (25-м, 26-м і 27-м) было шмат цікавых артыкулаў, допісаў і фельетонаў, былі рэпартажы і даволі многа фотаздымкаў. Было дзевяць тэкстаў з Нараўчанскай гміны.

Нашы чытачы — людзі адкрытыя і неабыякавыя да беларускай мовы. Яны чытаюць беларускі штотыднёвік, каб не развучыцца чытаць і пісаць па-беларуску. „Ніву" трэба купляць і чытаць. Беларускі тыднёвік найбольш ды цікава піша пра нас, беларусаў, ды пра важнейшыя падзеі на Беласточчыне.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Царскі палац і «Бора-Здруй»



**«Белы лес»:** — Калі і чаму ў Вас паявілася думка стварыць макет царскага палаца, які калісь стаяў у Белавежы?

**Барыс Казлоўскі:** — Я падумаў зрабіць гэты макет тры гады таму. У нас нічога не было, толькі расказы і здымкі, таму я падумаў, што людзям будзе цікава пабачыць, як выглядала легендарная будоўля.

**«Белы лес»:** — Адкуль у Вас веды пра палац, якога даўно ўжо няма?

**Барыс Казлоўскі:** — Я ездзіў у Белавежу тры разы і размаўляў з рознымі людзьмі. Я многа даведаўся, вельмі мяне ўразілі жывыя ўспаміны. Людзі гаварылі, што палац каштаваў 570 тысяч царскіх рублёў. Для параўнання — адна карова каштавала тры рублі.

**«Белы лес»:** — Колькі часу ствараеце ўжо аўтарскую копію і як думаеце — калі яе зробіце?

**Барыс Казлоўскі:** — Як я сказаў, макет раблю ўжо трэці год. Думаю, што праз некалькі тыдняў яго скончу. Трэба яшчэ зрабіць балкончыкі і дамаляваць некалькі дэталяў.

**«Белы лес»:** — А з якога матэрыялу ствараеце макет?

**Барыс Казлоўскі:** — Спачатку мы зрабілі бетонны фундамент, а потым абабілі пліткамі і абклалі пластмасавай цэглай. Памалявалі цэглу фарбай. Аднак цэглу цяжка было прыклеіць. Яшчэ большыя цяжкасці атрымаліся з дахам. Але ўдалося!

**«Белы лес»:** — Як Ваша сям'я ставіцца да гэтай працы?

**Барыс Казлоўскі:** — На пачатку сям'я ставілася скептычна, але цяпер, калі турысты зацікаўлены палацам, яна задаволена.

**«Белы лес»:** — Што гавораць турысты?

**Барыс Казлоўскі:** — Што ў агратурызме такога атракцыёна яшчэ не бачылі.

**«Белы лес»:** — Якія ў Вас планы?

**Барыс Казлоўскі:** — Калі толькі закончу макет, пачну рабіць Бурштынавы пакой.

**«Белы лес»:** — Дзякуем за размову.

**Барыс Казлоўскі:** — Калі ласка!

Размову апрацавалі **Кандрат Косцін і Паўліна Ёдла**



*Магда Люнда (у цэнтры)*



*мал. Магды Люнды*

Магда ЛЮНДА,
«Нараўчанская ластаўка»,
ПШ №1 у Гайнаўцы

## Нараўчанская ластаўка

Ой, што гэта ў далі?
Ці птушка ляціць,
Ці мне здаецца!
Не, усе туды глядзяць.
Гэта вясна ў Нараўку ляціць
І ўсім радасць прыносіць.
У вобразе ластаўкі
з'яўляецца яна
Наша родная прыгожая вясна.

## УВАГА КОНКУРС!
## № 29-18

Стаіць дзед
пры дарожцы,
Усім чапляе
па брошцы.
Дз.......

(Анатоль Клышка)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 29 ліпеня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 25-2018: аса. Узнагароду, аўтаручку, выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

# Пустая хата з пустой буслянкай

Уладзімір Гайдук жыў у Тарнопалі, што ў Нараўчанскай гміне. Жыў з працы рук. Калісь бусел звіў на коміне гняздо і гэта людзі тлумачылі так, што чалавек з такой хаты будзе самотны. Уладзімір Гайдук жыў у адзіноце сярод цудоўнай прыроды і ствараў вершы. Пісаў аб дрэвах і лесе, і пра лёс чалавека. Ён казаў, што трэба шанаваць прыроду, бо тады яна аддзячыцць чалавеку. Яго творчасць засталася з намі...

Людзі з Тарнопаля часам сустракаюцца ў святліцы і чытаюць яго вершы. Паэт, хаця няшмат гадоў хадзіў у школу, умеў пісаць добрыя вершы.

Уладзімір Гайдук асабліва любіў пісаць пра восень. Яго восень набрынялая колерамі і пладамі, а таксама сумам і праміnanнем. На месцы, дзе жыў паэт, засталася пустая, вялікая хата з пустой буслянкай, на якой, як не дзіва, вырасла бярозка.

Жаль, што я не магла пазнаць паэта і пагаварыць з ім пра вершы.

*Паўліна Ёдла*, «Белы лес», бельская «тройка»





мал. Клаўдзіі Нікапчук



Міхал Пахвіцэвіч і настаўніца Валянціна Бабулевіч

Віторыя Гаць,
«Бусел», бельская «тройка»

## Вёска маёй бабулі

Пуста тут зрабілася...
Прыйшла вясна і бусел прыляцеў.
І толькі людзей, якіх памятаю,
Не спаткаць іх чамусьці цяпер.

Не так даўно цётка Маня
Авечак дадому ганіла,
Дзед Цімох кабылку сваю вёў,
Дзядзя Коля сена сушыў
і вёз жыта.

Дзе яны цяпер?

Сёння пуста стала.
Ужо няма ні авечак, ні кароў.
Толькі людзі жывуць
У маёй памяці.
Дзе шукаць іх?

Толькі трава зарастае...
Сцежкай, па якой у поле хадзілі,
Я хацела б з імі пайсці.



Вікторыя Гаць

# Мары Юркі

У пятніцу Юрка паехаў на экскурсію. Ён доўга да яе рыхтаваўся, думаў, як там будзе, з нецярплівасцю яе чакаў.

Юрка спаў з камарамі. Наступнага дня ён наведаў царкоўку, гульнявую пляцоўку і наваколле. Яму вельмі смакаваў абед. Юрка пазнаў новых сяброў — Дам'яна, Міколу і Кандрата. Яны супольна гулялі. Пасля вячэры хлопцы пяклі каўбаскі на вогнішчы. Юрку зацікавіла размова з Янкам Разумнікам. Пасля гэтай размовы ўсе хлопцы марылі стаць рэдактарамі сур'ёзных газет.

Юрка пасля экскурсіі выняў глыбока схаваныя сшыткі і кніжкі ды вучыўся да самой раніцы.

У панядзелак ён атрымаў шасцёрку — першую шасцёрку пасля доўгага перапынку.

*Міхал Пахвіцэвіч*, «Белы лес», бельская «тройка»

## Польска-беларуская крыжаванка № 29-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 25-2018:**

Дзяўчына, ла, марс, кол, дар, ласось, ліпень, лівень, асака, за, пост, наш, вада.

Мора, замак, ар, ласы, ліст, сліва, апека, на, сена, конь, лось, зад, баль, каша. Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Магда Якубюк** і **Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Jaś / Soja | Pestka | Oczy | Przewodnik stada | | Przyjaciel | | | |
| | | | Wolność / Rękaw | | | | | Zupa / Początek | |
| | Derkacz / Dwóch | | | | | Bicz | | | |
| Drużyna | | | | | | | | Ola | |
| Oka | | | | | | Usta | | | |
| Skrytka | | Okna | | | | | | | |
| | | | | | Och | | Jak | | |

# Пражыла амаль стагоддзе пад Друяй: „Я яшчэ не дачакалася свабоднай Беларусі”

Яе Беларусь была пад Польшчай, савецкай і нямецкай акупацыяй і пад Савецкім Саюзам. Мянялася ўлада, людзі, законы нават для яе хутара Дразды, які здаваўся ёй бяспечным месцам, бо ахоўваў яго лес. Згэтуль было 10 кіламетраў у Друю і амаль столькі ж сама да польска-савецкай мяжы, якая ішла па рацэ Дзвіне. **ЧАСЛАВА БАРШЧЭЎСКАЯ** нарадзілася ў 1922 годзе пры ІІ Рэчы Паспалітай.



— Якая тут Польшча была? Ну, нібы была, але не ў Друі. Усюды былі палякі, толькі Друя была беларуская.

Калі Чаславе Баршчэўскай быў годзік, у Друі паўстаў кляштар, які па задуме яго заснавальніка кс. Юры Матулевіча павінен быў мець беларускі характар і з якога пачалася надзвычай багатая гісторыя службы марыянаў на Беларусі. Сам блаславёны кс. Матулевіч у час сваёй інаўгурацыі зазначыў: „Так як і Хрыстос, хачу вас абняць усіх, быць для вас усім. Я гатовы памерці за праўду. Для вас я буду толькі бацькам і слугай, апосталам Хрыста. Маё поле дзейнасці — Валадарста Хрыста, за свае правы змагаючыйся касцёл. Мая партыя — Хрыстос. (...) Я каталіцкі біскуп і хачу быць аднолькава для ўсіх. Для мяне ўсе роўныя: не важна, ці палякі, ці літоўцы, ці беларусы„. Першы раз у Друйскі касцёл Чаславу забраў бацька, калі ёй было сем гадоў. Паехалі са свайго хутара ў горад канём, але найчасцей тых дзесяць кіламетраў хадзілі пехатою.

— Бывала так, што калі ксёндз адпраўляў службу па-польску, то людзі выходзілі з касцёла. Але ў Друі беларусы былі, гаварылі па-беларуску ў касцёле. Палякам гэта не падабалася, але ж што рабіць? Гэта былі ксяндзы! А ксяндзы былі разумныя і пабожныя. Усе іх любілі. І гаварылі па-беларуску.

У Друі была створана гімназія, з якой таксама, як і з кляштара, выйшла нямала дзеячаў беларускай культуры. Тут можна ўзгадаць аднаго з самых вядомых дзеячаў беларускай эміграцыі Язэпа Германовіча, ці блаславёнага кс. Юры Кашыру, які быў замардаваны фашыстамі ў блізкай Росіцы. Але і сёння Друя з'яўляецца важным месцам для беларускай культуры, дзякуючы актыўнасці кс. Сяргея Сурыновіча, які, між іншым, у Друі арганізуе мастацкія пленэры.

З Драздоў аднак ездзілі ў Друю не толькі на літургію ў нядзелю. Бацька Чаславы Баршчэўскай пры нагодзе кірмашоў заўсёды купляў беларускія газеты.

— На пошце працавала знаёмая жыдовачка — Гана Кацяковіч. Яна ведала, што бацька чытае, таму заўсёды яму трымала. Аж з Вільні прыходзіла да нас „Крыніца”.

Друя ў свой час была горадам, які меў магдэбургскае права і тут праходзілі аж тры буйныя кірмашы на год — тады гэтай прывілеяй не мог пахваліцца ніводзін іншы горад у Беларусі. На развіццё Друі мела ўплыў таксама яўрэйскае насельніцтва, якое складала амаль 70% усіх жыхароў горада.

— Вясёлыя былі такія жыдовачкі. Майго бацьку клікалі: „Казімір, хадзі сюды! Купляй!” Бацька таксама з імі жартаваў. Адказваў ім: „А што вы такія вясёлыя, хіба не са сваім праспала”. Смяяліся, поўна людзей было, тавараў. Былі людзі.

Пра яўрэйскую Друю напамінаюць характэрныя дамы — пагорбленыя, трухлявыя, некаторыя і ўвогуле закінутыя. Новыя іх гаспадары апошнія 75 гадоў не вельмі клапаціліся аб тым, каб захаваць іх першапачатковы воблік. Раней, у чэрвені 1942 года адбыліся



тут крывавыя падзеі — нацысты забілі больш за тысячу трыста яўрэяў і толькі некалькім удалося выратавацца. Адзін з уцалелых памёр два гады таму. Дзякуючы Баршчэўскім Халакост перажыла яўрэйская сям'я з Міёраў.

— Бацька прыняў яўрэяў. Дазваляў ім капаць бульбу, каб мелі, што паесці. Не немцы, але мясцовыя даведаліся, што яны схаваліся ў нашай стадоле. Ноччу прыйшлі да нас. Параскідалі ўсе рэчы па гэтай стадоле, якія яўрэі з сабою мелі. Бацька мой выйшаў і кажа: «Не чапайце іх. Што яны вам зрабілі?». А яны ўжо збіраліся стадолу падпаліць. Не мог бацька іх даўжэй трымаць, яны дзесьці перабраліся далей. Але часта, калі мы вячэралі, стукалі ў акно, каб даць ім паесці.

Дразды, родны хутар Чаславы Баршчэўскай таксама знішчылі. Савецкая палітыка перасяляла жыхароў невялікіх пасёлкаў у вёскі. Сёння Дразды ўжо цалкам зарос лес, які калісьці атуляў хутар.

— Расію лічылі бязбожнай. Расію лічылі ворагам. Ненавідзелі Расіі. Чапляласся гэтая савецкая ўлада да ўсіх. І да касцёла, і да ксяндзоў таксама. 1 траўня абавязкова трэба было павесіць чырвоны сцяг. У нас таксама вешалі, бо вельмі баяліся, хаця жылі на хутары ў кустах. Хто там мог ведаць ці павесілі, ці не! Вешалі. Баяліся. Прыязджалі да нас іхнія палітрукі, хвалілі савецкую ўладу. Даўней насілі дзеравяшкі на нагах. Часам некаторыя здымалі тыя боты і кідалі ў палітрукоў. Не любілі, але жыць трэба было.

Бацька Чаславы лічыўся кулаком. Меў 20 гектараў поля. Цэлая сям'я баялася, што саветы іх вывезуць у Сібір. Баршчэўскіх не вывезлі, аднак саветы амаль закатавалі маладога бацькавага каня, якога вельмі любіў. З таго часу ўсё пачало мяняцца, бо вельмі памяняўся бацька Чаславы.

— Закрыўся ў сабе. Хадзіў такі засмучаны. Разумеў, што адбываецца з намі, з Беларуссю. Мой сваяк заспяваў песню: „Шырокая краіна мая родная, шмат у ёй лясоў, палёў і рэк! Я іншай такой краіны не ведаю, дзе так вольна дыхае чалавек”. Гэта расійская песня, але ён яе па-беларуску заспяваў. На восем гадоў яго забралі. Восем гадоў адсядзеў дзесьці ў Латвіі ў турме.

Часлава зараз жыве ў Цілеўшчыне, вёсачцы аддаленай ад Друі на адзінаццаць кіламетраў. Жонка пляменніка спадарыні Чаславы жартуе, што 97-гадовая жанчына амаль нічога не есць.

— Цёця хіба жыве толькі малітвай!

На думку спадарыні Чаславы менавіта малітва з'яўляецца спосабам на даўгавечнасць. У сваім пакойчыку пры фатэлі, на якім любіць сядзець, стаіць радыё. Калісьці слухала „Радыё Вольная Еўропа”, а зараз „Радыё Свабода”.

— 96 гадоў і яшчэ лезу ў палітыку, — смяецца. — Заўсёды яшчэ хочацца нешта паслухаць, даведацца.

Стары альбом са здымкамі гэта для яе вялікі скарб. Адкрываючы яго, усміхаецца і цёпла ўспамінае родных з фатаграфій.

— Тут маёй мамы брат і сястра. „Заканыя” беларусы былі. Брат мамы яшчэ да вайны пісаў такія жартоўныя песні. Смяяўся з гэтых „палякаў”, якія не ўмелі размаўляць па-польску, а хацелі гаварыць. Яны ішлі супраць палякаў. Несхадзімыя беларусы. Іх ксяндзы прывучылі да беларускасці. Тут заўсёды была Беларусь. Якая тут Польшча?! І зараз, каб ім прыйшлося вярнуцца ў сённяшнія часы, як яны б жылі? У жарты прайшла Беларусь.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

# Прагулка на мяжу



■ Царкоўка на могілках у Вульцы-Тэрахоўскай

Даўно-даўненька пагульваў я па-над самюсенькай гранічнай паласой, па жвіроўцы, што вядзе з Чаромхі ў Апаку. І падаўся я зноў туды. Спярша дарога вядзе ў Вульку-Тэрахоўскую. А пакуль да вёскі, то па дарозе могілкі.

Вікіпедыя: „Волька Церахоўская (па-польску: Wólka Terechowska, па-падляску: Vilka) — вёска ў Гайнаўскім павеце Падляскага ваяводства Польшчы. Знаходзіцца ў гміне Чаромха. Узгадваецца ў вялікакняскіх інвэнтарах пад назвай Волька — Цярэхі ў 1731 г. Дакумэнты 1786 году сьцьвярджаюць пра існаваньне дзьвёх вёсак — Волькі і Цярэхаў. Пасьля Трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Кацярына II перадала Вольку зь іншымі вёскамі амелянецкага шляхоцкага ключу сям'і князя Гагарына. У міжваенны пэрыяд прыналежала да гміны Вярховічы Берасьцейскага павету Палескага ваяводзтва. 22 і 23 жніўня 1942 году немцы памардавалі 11 мясцовых жыхароў і савецкіх партызанаў. У 1981-1984 гадах жыхары пабудавалі тут царкву сьв. Ганны". Царкоўку пабудавалі на могілках. На могілках царыць цішыня, новых магіл мала. Прозвішчы пакойнікаў на -ук ці -uk. Апошні суфікс наводзіць асацыяцыю з дзяржавай, якая менавіта часта пазначаецца тымі ж літарамі — UK... United Kingdom — так можна таксама назваць тое патойбаковае каралеўства, дзе ўсе — роўныя — пакояцца без зямных страсцей.

Вульку-Тэрахоўскую каля сарака гадоў таму наведаў быў Мікола Гайдук па маршруце ягоных краязнаўчых вандровак. Напісаў быў ён абуральна: „*Князь же Володимеръ въ княженьи своемъ многы годы сруби по отци своемъ: сруби Берестій и за Берестіемъ сруби городъ на пустомъ месте нарицаемомъ Льстне и нарече имя ему Каменецъ, зане бысть камена земля. Създа же в немъ столпъ камень высотою 17 саженей подобенъ удивленію всемъ зрящимъ на нь, и церковь поставіи Благовещенія святыа Богородици и украси ю иконами златыми и съсуды скова служебныа сребрены и еуангеліе опракосъ, оковано сребромъ, апостолъ опракосъ, и парамья и съборникъ отца своего туто жъ положи и крестъ въездвизальный положи. Тако же и у Бельску поустрои церковъ иконами и книгами*... І тут нехта скептычна заўважыць, што паміж гэтымі чароўнымі радкамі запісу пад 1288 годам у Іпаціеўскім летапісе і маленечкай, бо ўсяго з 58 нумарамі вёсачкай, што знаходзіццаў трох кіламетрах на ўсход ад чыгуначнай станцыі Чаромха, нічога супольнага быць не можа. Замест кінуцца ў спрэчку, я і сам падкіну майму крытыку не абы-які довад: Волька Церахоўская ў пісьмовых дакументах упершыню ўпамінаецца пад 1786 годам, значыць амаль роўна паўтысячы год пасля смерці князя Уладзіміра Васількавіча (нарадзіўся каля 1230 г. — памёр 10 снежня 1288 г.), пра якога якраз і гаворыцца ў гэтым урыўку. Аднак ёсць адна бясспрэчная і фундаментальная супольнасць паміж імі: тутэйшая зямля і багатае яе мінулае. Нават з гэтага кавалачка летапісу выразна вынікае, што ў другой палове XIII стагоддзя землі над сярэднім цячэннем Буга і ў вярхоўях Нурца, Нарвы і Лясной былі ладна загаспадараны і густавата, як на тыя часы, заселены, бо ніхто ж у бязлюднай пустэчы не будуе гарадоў, не ахвяроўвае цэркам залатых іконаў і сярэбранага літургічнага начыння ды ў ніякім выпадку людзям малаадукаваным не дорыць кніг. Пішу пра гэта невыпадкова. У мінулым дзесяцігоддзі ў нашай краіне выйшла многа кніг, брашур, артыкулаў пра наш рэгіён. Напісалі іх такія аўтары, перад прозвішчамі якіх стаяць самыя гучныя навуковыя званні прафесара, дацэнта, доктара. І большасць іх са скуры вылазіць, каб толькі зацерці багатае мінулае нашай зямлі ў часы прыналежнасці яе да Кіеўскай Русі і Вялікага Княства Літоўскага. Паводле іх наш рэгіён быў суцэльнай дзікай пушчай аж да часоў далучэння яго да Каралеўства Польскага ў 1569 годзе. Гэтыя ілжэвучоныя няслаўнай геркаўскай эпохі намагаліся пазбавіць нас, беларусаў Беласточчыны, спадчыны па нашых продках, імкнуліся падрэзаць нам карэнні нашай спрадвечнай тут бытнасці і нацыянальнай самабытнасці. Наперакор гэтым панам-шавіністам мы павінны быць цвёрда ўпэўнены ў сваім спрадвечным тут пражыванні. Ніякія нягоды — набегі яцвягаў і літоўцаў у X-XIII стагоддзях, татарская навала 1241 і 1259 гадоў, крыжацкія рэйзы ў XIV стагоддзі, шведскі *потоп* у 1654-6 гадах ці іншыя, ужо пазнейшыя няшчасці — ніколі не змаглі перарваць, перапыніць нашага тут жыцця".





Больш-менш у той жа час савецкі друк інфармаваў: „Пачынаючы з XI ст. і да нашэсця манголаў у 1223 г. полаўцы (кума        ны) — напаўвандроўнае племя цюркскага паходжання — былі паўднёвымі суседзямі Русі. Адступаючы пад напорам мангольскіх полчышчаў, полаўцы шукалі прытулку ў суседніх землях. Частка з іх асела на Берасцейшчыне, ва ўладаннях Данілы Галіцкага і яго брата Васількі... Палавецкія паселішчы не выпадкова ўзніклі на паўночных рубяжах Валынскага княства. З часоў Рамана, Данілавага бацькі, землі гэтыя ляжалі спустошаныя набегамі суседзяў, таму полаўцаў выгадна было рассяліць там, скарыстоўваючы іх у якасці заслону ад частых нападаў яцвягаў і літоўцаў. Палавецкія паселішчы размяшчаліся ў паўночнай частцы Брэсцкага павета Гродзенскай губерні і ўваходзілі ў Палавецкую валасць. У 1926 г. Палавецкая валасць была ліквідавана, а пасля Вялікай Айчыннай вайны вёскі Ставішча, Полаўцы і Вулька-Церахоўская адышлі да ПНР". Так, вось, мела выглядаць сівое мінулае Вулькі-Тэрахоўскай...

А з чаго ж можа выводзіцца назва вёскі, назва Церахі ці па-мясцоваму Тэрахі? Ці прынеслі яе полаўцы з нейкай цюркскай мовы? Мікалай Байкоў і Сцяпан Некрашэвіч у *Беларуска-расійскім слоўніку* выводзяць слова Церах ад імя Цярэнція, гэтаксама і Казімеж Рымут. А апошні яшчэ дае іншую падказку: *terech* — niechluj, brzydal... Аднак можна падазраваць, што гэтая назва вырастае і з іншага кораня, з таго ж самага, што і слова *церам*, *тэрэм*, ад якіх пайшлі назвы тутэйшых вёсак Церамкі і Тэраміскі. Церам жа гэта тое ж, што і харом, а ў народнай мове яно магло жартаўліва абазначаць і звычайненькае сялянскае жылое збудаванне, якім маглі назваць і буду буднікаў. І магчыма, што назвы Тэрахаў і Вулькі-Тэрахоўскай былі выведзены ад хатак колішніх полаўцаў-буднікаў, што абжывалі мясцовую зямельку...

Мікола Гайдук: „У міжваенны час Волька славілася вырабам бандаркі. Бочкі, цэбры, капані, дзежы, балейкі, бэльцы (шафлікі насіць корм жывёле), біянкі (маслабойкі), куфры з Волькі славіліся па ўсяму наваколлю. Вазілі іх на торг у Кляшчэлі, Бельск, Бранск, Орлю, Высокае і іншыя мясцовасці. Каб прыдбаць хоць які-небудзь грош, ездзілі ў Белавежскую пушчу да вывозкі, на *путь* (чыгунку), хадзілі да самых цяжкіх зямляных работ. Усё ж жылі бедна, ледзь канец з канцом вязалі". І далей: „Нашчадкі колішніх бондараў сталі паважнымі чыгуначнікамі. Водзяць і абслугоўваюць цягнікі, працуюць у дэпо, даглядаюць *путь*. Але не пакідаюць яны і свае гаспадаркі, абрабляюць старанна зямлю, гадуюць шмат жывёлы...".

Магчыма, што збіраліся яны ў вольныя хвіліны ў сваёй вясковай краме ці каля крамы і абмяркоўвалі, між іншым, куды ў свет пасляць за навукай сваіх дзяцей. Гэтак было сорак гадоў таму. Сёння Вулька-Тэрахоўская прыціхла, яе ранейшыя гаспадары перасяліліся ў патойбаковае каралеўства побач вёскі, а іх нашчадкі знайшлі сабе месца ў шырокім вонкавым свеце. Няма тут слядоў сучаснага гаспадарання, а і від некаторых будынкаў паказвае, што мясцовая прырода адваёўвае свае пазіцыі, страчаныя калісь у змаганні з палавецкімі першапасяленцамі...

Каля кіламетра за Вулькай-Тэрахоўскай расходныя дарогі і адна з іх, паводле дарожнага паказальніка, вядзе ў Пагулянку. Падаўся і я па той дарозе, але на чарговых ростанях, ужо ананімных, апасаючыся заблукацца ў лясных лабірынтах, падаўся я ў напрамку тае жвіроўкі, што пралягла амаль па дзяржаўнай польска-беларускай граніцы. Але заінтрыгаваў мяне тапонім *Пагулянка*. Агульна слоўнікі падказваюць, што гэтае слова абазначае або прагулку, або вечарынку з гуляннем. Але мне тыя мясціны непадалёк Вулькі-Тэрахоўскай не надта асацыююцца з гуляннямі. Стаў я корпацца ў сеціве, ці гэтая назва не мае багацейшага значэння. І ўдалося: „Яшчэ ў недалёкім мінулым назва Пагулянка была даволі папулярнай сярод найменняў населеных пунктаў Беларусі. Найчасцей слова *пагулянка* ўжывалася ў якасці назвы хутароў. У цяперашні час усё менш і менш застаецца хутароў, а разам з імі паступова адыходзіць у гісторыю і гэта найменне. Імкненне растлумачыць паходжанне цікавага і простага на першы погляд тапоніма прыводзіць да памылковых этымалогій. Так, паводле народнай этымалогіі, часта назву *Пагулянка* звязваюць з месцам, дзе адбываліся вечарынкі, гулянкі. Аднак такое тлумачэнне з сапраўднай этымалогіяй не мае ніякай сувязі, як не звязаны непасрэдна гэты тапонім і са значэннем *прагулка*, якое засведчана ў сучасных тлумачальных слоўніках пры слове *пагулянка*. На самай справе разгадку назвы трэба шукаць у дыялектнай мове, і звязана гэта назва са старажытнай сістэмай земляробства. У народзе пра часова няворную зямлю, якая ляжала ў аблозе, гаварылі, што яна гуляе. Зямлю, якая адпачывала пад парам, называлі пагуляўшай. Пагулянкай называліся і палі, якія некалі ўзўялялі пустку, цаліну. Хутары і вёскі, што з'яўляліся на такіх месцах, пераймалі іх назву". Этымалагічны слоўнік рускай мовы Макса Фасмера слова *гуляць* прымяркоўвае да літоўскага *guliu*, *guleti* — лягаць у пасцель, прылегчы... А сеціва падкінула і яшчэ іншае тлумачэнне: „Яшчэ адна назва, звязаная з мясцовасцю — *Пагулянка*. Яна паходзіць ад слова, якім абазначалі месца ў горадзе, адведзенае пад продаж (расчышчанае ляда), дзе можна сабе выбраць участак. Вялікая Пагулянка была адной з самых раскошных вуліц у Вільні, напрыклад". Але пакуль Вільню збудавалі, то высякалі пад пабудову ляды, стаўлялі на іх буды і г.д. Тапанімія нашых мясцовасцей падказвае, што яны абжываліся руплівай працай нашых першапасяленцаў...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# 25 гадоў таму адбыўся Першы з'езд беларусаў свету

Значнасць гэтай маштабнай падзеі цяжка пераацаніць. У найноўшай гісторыі нашай краіны месца Першага з'езда беларусаў свету, скліканага з ініцыятывы ЗБС „Бацькаўшчына", знаходзіцца ў адным шэрагу з атрыманнем незалежнасці і аднаўленнем забароненай нацыянальнай сімволікі.



Галоўнай ідэяй Першага з'езда былі незалежнасць і нацыянальнае адраджэнне. Галоўнай тэмай — дзяржаўнае будаўніцтва Беларусі. Цягам трох дзён беларусы з розных краін дзяліліся ўспамінамі, досведам, сваім бачаннем будучыні Беларусі, абмяркоўвалі праблемы развіцця ўзаемаадносінаў Беларусі з яе амаль чатырохмільённай дыяспарай, вырашалі пытанні аб падтрымцы замежных суродзічаў, абмяркоўвалі накірункі працы Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына".

Прадстаўніцтва на З'ездзе мелі ўсе дэмакратычныя грамадскія сілы Беларусі, дзяржаўныя структуры, тыя беларусы замежжа, кантакты з якімі за савецкім часам былі забароненыя, а таксама беларусы замежжа, якія займелі такі статус праз падзел Савецкага Саюза на незалежныя рэспублікі.

Адкрыў З'езд народны пісьменнік Беларусі, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету Васіль Быкаў. Другім выступаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. Даклад ад імя сусветнай беларускай супольнасці зачытваў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі. Сярод дэлегатаў З'езда — міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, намеснік старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхась Дзямчук, міністр інфармацыі і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч, народны паэт, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч, рэдактар газеты „Беларус", адзін з найвядомых дзеячаў Беларускага замежжа Ян Запруднік, кіраўнік Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Кіпель. На З'езд былі запрошаныя найбольш вядомыя і заслужаныя перад Беларуссю людзі. Гэта тысяча дэлегатаў і больш за дзве сотні гасцей!

Мастакі Беларусі пры дапамозе Міністэрства культуры зладзілі ў Палацы мастацтва вялікую выставу з удзелам мастакоў з беларускага замежжа. З дапамогай Мінскіх гарадскіх уладаў горад быў упрыгожаны плакатамі і афішамі з вітаннямі да ўдзельнікаў З'езда, а будынак Опернага тэатра, дзе праходзіла мерапрыемства, быў аздоблены Купалавымі словамі: „На Сход! На Усенародны Сход!". Урачыстасці ў межах культурнай праграмы З'езда прайшлі ў Навагрудку, Нясвіжы, Лідзе, Баркулабаве (Магілёўшчына) і іншых месцах.

З'езд стаў першым вялікім мерапрыемствам, у ажыццяўленні якога бралі сумесны парытэтны ўдзел грамадскія сілы і дзяржаўныя ўлады. Гэта стала магчымым дзякуючы шчыльнай супрацы ў арганізацыі мерапрыемстваў, якія папярэднічалі Першаму з'езду — Устаноўчай канферэнцыі па арганізацыі Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" ў верасні 1990 года, стварэнні Арганізацыйнага камітэту па падрыхтоўцы З'езда ў ліпені 1992, а таксама Першага схода беларусаў блізкага замежжа ў снежні 1992 года. У тым самым годзе Савет Міністраў Беларусі прыняў спецыяльную пастанову „Аб пытаннях дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына»". Міністэрства замежных спраў дапамагала арганізатарам З'езда шукаць кантакты заходніх эмігрантаў. Міністэрства інфармацыі і друку паспрыяла выданню кніг Вітаўта Кіпеля, Аркадзя Смоліча і Юрыя Туронка, а таксама дало добрую рэкламу падзеі. Госці і дэлегаты З'езда атрымалі бясплатныя візы на ўезд.

Першы з'езд беларусаў свету стаў першым рэальным крокам і вялікім прарывам у справе кансалідацыі беларускай нацыі. Урачыстай святочнай сустрэчай з братамі і сёстрамі пасля доўгага расстання. Вялікім Сходам, аб якім прарочыў Пясняр.

Неўзабаве Савет Міністраў зацвердзіў Дзяржаўную праграму „Беларусы ў свеце" і стварыў Каардынацыйны савет па справах беларускай дыяспары пры ўрадзе. І хаця не спраўдзіліся аптымістычныя спадзевы на тое, што дзяржава надалей будзе толькі паскараць развіццё супрацоўніцтва з беларускім замежжам, распрацаваны ЗБС „Бацькаўшчына" „Закон аб беларусах замежжа", які надзяляе прадстаўнікоў беларускай дыяспары юрыдычным статусам, праз дваццаць гадоў усё ж такі быў прыняты. Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" у сваей дзейнасці па-ранейшаму кіруецца прынцыпамі і ідэаламі, якія дапамагаюць беларусам не зважаючы на ўсе спрэчкі, збірацца разам. Чвэрць стагоддзя З'езды беларусаў свету рэгулярна праходзяць у Мінску і працягваючы аказваць уплыў на жыццё беларусаў і на Бацькаўшчыне, і за мяжой.

*Інфармацыйны цэнтр МГА „ЗБС „Бацькаўшчына"*




## www.mslu.by/by

У Беларусі існуе даволі прэстыжны Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт (МДЛУ). Здаецца, што ў краіне, дзе афіцыйна існуе двухмоўе, дадзенае вну мусіць падкрэсліваць гэтую беларускую асаблівасць. Аднак, калі зазірнуць на сайт універсітэта, які месціцца па адрасе **www.mslu.by/by**, то можна ўбачыць, што такога не існуе.

Па-першае, вельмі дзіўна, што дадзены сайт мае ўсяго толькі чатыры моўныя версіі — англійскую, рускую, беларускую і кітайскую. І гэта пры тым, што ўніверсітэт прапануе навучанне не толькі англійскай і кітайскай, якія ёсць замежнымі для Беларусі, але і нямецкай, французскай, іспанскай, партугальскай, італьянскай, шведскай, польскай, галандскай, карэйскай, японскай, арабскай, турэцкай, персідскай, венгерскай, літоўскай, фінскай, іўрыту і ўрду.

Па-другое, беларуская версія сайта насамрэч такой не з'яўляецца з-за таго, што па-беларуску на ёй падаюцца толькі загалоўкі рубрык, падрубрык і мноства паасобных тэкстаў. „Страница не имеет перевода на текущий язык. Отображена русская версия. The page has no translation into the current language. Displayed russian version", — такое тлумачэнне даецца амаль паўсюдна ў беларускай версіі. Пры гэтым уладальнікі сайта настолькі нядбайна ставяцца да сваёй працы, што не прыбіраюць гэты надпіс, калі старонка ўсё ж займее пераклад. Напрыклад як на старонцы, якая па-беларуску распавядае пра гісторыю ўніверсітэта. Дарэчы, гэтая старонка адна з нешматлікіх у беларускай версіі, дзе з тэкстам можна азнаёміцца на беларускай мове. Адтуль мы можам даведацца, што „сёння МДЛУ — вядучая навучальная ўстанова па падрыхтоўцы высокакваліфікаваных перакладчыкаў, выкладчыкаў дзвюх замежных моў, спецыялістаў па міжкультурнай камунікацыі".

Акрамя таго, што дадзены ўніверсітэт навучае мностcounting замежных для грамадзян Беларусі моў, ён таксама дае грамадзянам іншых краін магчымасць вывучыць беларускую і рускую. Пра навучанне там першай дзяржаўнай мове падчас летняга перыяду ў так званай „Летняй школе беларусазнаўства" паведамляе нават сайт Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына", які перадрукаваў паведамленне з сайта МДЛУ. „Мы запрашаем вас на інтэнсіўны курс беларускай мовы. Працягласць курсу — 2 тыдні. Мы навучым вас гаварыць па-беларуску або ўдасканалім вашы навыкі, а таксама дадзім асноўныя тэарэтычныя звесткі па беларускай мове і культуры", — пішуць уладальнікі сайта ў рубрыцы „Летняя моўныя школы".

На сайце сцвярджаецца, што культурная праграма дадзенай школы па беларускай мове ўключае экскурсіі па гістарычных мясцінах Мінска і Беларусі, наведванне музеяў і іншых культурных і адукацыйных установаў горада, сустрэчы з дзеячамі беларускай навукі, нефармальныя сяброўскія сустрэчы са студэнтамі — носьбітамі беларускай мовы. „Вы зможаце лепш спазнаць Беларусь, яе культуру, гісторыю і жыхароў, а таксама правесці незабыўны час з новымі знаёмымі з іншых краін. На працягу курсу вы можаце заўсёды разлічваць на дапамогу і падтрымку нашых выкладчыкаў і валанцёраў", — паведамляецца там і адзначаецца, што такое навучанне каштуе 100 еўра, але праезд, пражыванне, харчаванне, рэгістрацыйны збор, медыцынская страхоўка аплачваюцца дадаткова.

Цяжка сказаць, якім чынам здолеюць добра навучыць беларускай мове замежнікаў у МДЛУ, але зважаючы на сайт універсітэта, пазнаёміцца з усім яго зместам па-беларуску навучэнцам будзе немагчыма.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з календара



### Падзеі і асобы БНР

# 100 гадоў з дня фармавання трэцяга Урада БНР

У гэтым выпуску календара пра тое, як фармаваліся ўрады Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе, якія асобы ў іх уваходзілі і як склаўся іх далейшы лёс.

Першы кабінет БНР існаваў да 14 траўня 1918 года, калі Рада БНР даручыла Раману Скірмунту ўтварэнне другога Урада. У той самы дзень быў створаны кааліцыйны Прэзідыум Рады БНР на чале з новым старшынёй Рады — Язэпам Лёсікам.

З 14 траўня да 9 ліпеня 1918 першы Народны сакратарыят існаваў як пераходны Урад БНР да ўтварэння новага кабінета. Пасля адставак дзевяці народных сакратароў першы склад Народнага Сакратарыята сталі называць „Радаю пяцёх". У яе ў траўні 1918 года ўваходзілі: старшыня Народнага сакратарыята, народны сакратар міжнародных і ўнутраных спраў Язэп Варонка, народны сакратар асветы і нацыянальных спраў Аркадзь Смоліч, народны сакратар юстыцыі і кіраўнік спраў Народнага сакратарыята Лявон Заяц, народны сакратар фінансаў і харчавання Пётра Крэчаўскі, народны сакратар народнай гаспадаркі і земляробства Янка Серада. Да 9 ліпеня канфігурацыя „Рады пяцёх" змянілася: з яе выйшаў Аркадзь Смоліч, а пасаду народнага сакратара асветы заняў Кастусь Езавітаў.

9 ліпеня 1918 года быў зацверджаны асабовы склад другога Урада БНР пад кіраўніцтвам Рамана Скірмунта. У склад новага кабінета ўвайшлі: Скірмунт — старшыня Сакратарыята і сакратар міжнародных спраў, Кіпрыян Кандратовіч — сакратар унутраных спраў, Станіслаў Хржанстоўскі — сакратар фінансаў, Радаслаў Астроўскі — сакратар асветы і Павал Аляксюк — загадчык справамі. Легітымнасць новага Народнага сакратарыята не прызнавалі, аднак, Язэп Варонка і шэраг яго паплечнікаў. 20 ліпеня 1918 года Раман Скірмунт пайшоў у адстаўку з пасады старшыні ўрада.

22 ліпеня 1918 года быў сфармаваны трэці Урад БНР, які ўзначаліў Янка Серада.

Лёс сяброў урада БНР склаўся па-рознаму. Тыя, хто пазней выехалі ў эміграцыю, знайшлі апошні спачын там. Тыя, хто засталіся на радзіме, усе былі фізічна вынішчаны савецкім сталінскім рэжымам.

Пётра Крэчаўскі памёр у Празе ў 1928 годзе, пахаваны на самых вядомых у Чэхіі Альшанскіх могілках.

Генерал Кіпрыян Кандратовіч памёр сваёй смерцю ў 1932 годзе ў маёнтку Пагародна (Воранаўскі раён). Яго пахавалі там жа, пазней, у наш час, перапахавалі ў Воранаве каля праваслаўнай царквы. Лідскія грамадскія актывісты ўшаноўваюць яго памяць.

Лявон Заяц быў закатаваны НКВД у турме горада Уфа (сталіца цяперашняга Башкарстана) у 1935 годзе.

Аркадзь Смоліч расстраляны ў Омску ў 1938 годзе.

Раман Скірмунт расстраляны саветамі ў 1939 годзе ў ваколіцах роднага Парэчча (Пінскі раён). Перапахаваны пазней у Парэччы, патрыёты ўшаноўваюць яго памяць.

Язэп Лёсік памёр у турме ў Саратаве (Расія) у 1940 годзе. Месца яго пахавання дагэтуль невядомае.

Янка Серада згінуў без вестак пасля 19 лістапада 1943 года пасля вызвалення з савецкага канцлагера.

Кастусь Езавітаў памёр ці расстраляны ў мінскай турме НКВД у 1946 годзе. Месца пахавання невядомае.

Язэп Варонка выехаў у ЗША, памёр у Чыкага ў 1952 годзе. Пахаваны там на праваслаўных могілках.

Павал Аляксюк ад беларускай ідэі адышоў, у 1920-я гады займаўся адвакацкай практыкай у Навагрудку.

Радаслаў Астроўскі пражыў даўжэй іншых. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны, ратуючыся ад саветаў, спярша ўцёк у Заходнюю Нямеччыну, а ў 1956 годзе выехаў у ЗША, памёр у 1976 годзе.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

На здымку: Старшыня трэцяга Урада БНР Янка Серада

**Анатоль ПАРЭМБСКІ**

## Сяброўская бяседа

Бяседа ты, наша бяседа,
Це сталі Сяброўскаю зваць.
Табою цікавяцца й медыя,
А свет стаў цябе паўтараць.
Твор удалы Астапчука Юркі
І таленту яго вышыня.
Не баіцца ніякай цэнзуркі,
Як клінок із дубовага пня.
І чакаюць цалюткі год людзі
Той бяседы суседзяў, сяброў.
Легендарны Барык шалець будзе
Ад заспеваў, жаданняў, «гвінтоў».
Колькі тут спевакоў, калектываў!
Кожны хваліцца дзелам сваім.
А да гутаркі столькі матываў,
І не здолець успомніць пра ўсіх!
А пад соснамі цокаюць чаркі,
Кум падносіць куме дарагой,
А кума ўжо задбала пра скварку:
«Вып'ем, куме, за добры настрой!».
Тут раскошы – дзятве і дарослым!
То Сяброўскай сустрэчы ідэя.
А настрой тут заўсёды ўзнёслы.
На світанні – канец «эпапеі».

30.07.2016



# ЧАС СКАЗАЦЬ ПРАЎДУ

(заканчэнне)

Выступаючы супраць наганным міжлюдскім адносінам на рэабілітацыйным аддзяленні я разумеў, што пачынаю сутычку быццам Дон Кіхот з ветракамі — адзін супраць усяму аддзяленню. З другога боку я не мог дазволіць, каб хтосьці сваю гразь змываў маім добрым імем. Мае размовы з ардынатарам і намеснікам дырэктара па медыцынскіх справах, праўда, не вырашылі праблемы, але далі пазітыўны вынік. Скандал прыціх. У палаце кампаньёны пачалі акуратна сябе паводзіць. Нават сталі ўсміхацца. Але была гэта фальшывая ўсмешка, крывадушная. Чарговы ўдар я атрымаў ад тэрапеўткі, якая апекавалася нашай палатай. Гэтая на вонкавы выгляд дабрадзейная істота абвінаваціла мяне ў тым, што я яе навызываў і са слязамі ў вачах пайшла да медсястры па аддзяленні на скаргу. Гэтая, не разабраўшыся ў справе, прыбегла ў палату і напала на мяне быццам каршун на курыцу. Нездарма ў народзе кажуць: «Дзе д'ябал не зможа, туды бабу пашле». Так было і гэтым разам. Тэрапеўтка пачала распавядаць па аддзяленні, які з мяне нягоднік, што шукаю прычыны для сварак і скандалаў. Ёй далі веру. Мяне абыходзілі быццам пракажонага. Не мог я з гэтым пагадзіцца. Расстроілі маю нервовую сістэму, рукі пачалі дрыжаць, уначы зрываўся. Ці гэта было нармальна хвораму з абмежаваннямі пацыенту? Я давяраў „сваім" лекарам з гайнаўскай лячэбніцы, адказваючыся ад санаторыі ў Галдапе. А што вынікла? Скандал. І гэта якраз здараецца ў публічным шпіталі, які быў чатырохкратным фіналістам газеты „Жэчпаспаліта" ў рэйтынгу „Бяспечны публічны шпіталь". Трэба сказаць, што ў гайнаўскай бальніцы працуюць выдатныя спецыялісты і самаахвярна нясуць дапамогу пацярпелым ад апаплексіі хворым. Таксама можна сказаць аб фізіятэрапеўтах, апякунках і акушэрках. Праз шэсць тыдняў наглядаў я за іхняй штодзённай працай. Але здараюцца, як у кожнай грамадскасці, „чорныя авечкі", якія наносяць кляймо ганьбы на ўвесь калектыў. Ці на гэта можна дазволіць? Не дайце звесціся, даражэнькія, крывадушным адзінкам кляйміць добрае імя. Праўда ёсць такая: «Як нас бачаць, так пра нас пішуць». Варта аб гэтым памятаць.

**Уладзімір СІДАРУК**

P S. Перад выпісам са шпіталя мае „абвінаваўцы" падаліся ў водпуск. Няўжо сорамна ім было глядзець чалавеку ў вочы пасля такіх паклёпніцкіх пасквіляў? Хачу напомніць, што незадоўга зноў спаткаемся. 10 жніўня мне вызначылі тэрмін аперацыі сцягна на артапедычным аддзяленні, затым чакае шасцітыднёвая рэабілітацыя. Варта задумацца некаторым работнікам рэабілітацыйнага аддзялення аб сваіх паводзінах. Больш пакорлівасці і пашаны для пацыентаў. Асабліва для тых з абмежаваннямі.

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. „егіпецкая" опера Вердзі = 22 _ 13 _ 23 _ 9 _;
2. да і пасля Клінтана = 3 _ 24 _ 20 _;
3. доўгі высокі земляны насып = 16 _ 7 _ 18 _;
4. ручное прыстасаванне для абмахвання ў духату = 10 _ 11 _ 25 _ 4 _;
5. хімічны элемент н-р 53 = 17 _ 1 _;
6. ін'екцыя = 19 _ 21 _ 2 _ 8 _;
7. невялікая лясная птушачка, якая водзіцца ў... гміннай мясцовасці між Орляй і Нарвай = 6 _ 5 _ 14 _ 15 _ 12 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 26 нумара**

Манета, воўк, штат, папуас, управа, кабыла, Гайнаўка.

Рашэнне: **Атаўка — сену прыбаўка**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

# 22.07 — 28.07

**(22.03. — 20.04.)** Не праводзіш часу бестурботна, усё думаеш пра камфорт сям'і. Грошы заробіш маланкава, ды нічога не адкладзеш. Больш канцэнтрацыі на фірме. Пераканаешся, што не ўсе дзейнічаюць „фэр" (лепш мець сумленных ворагаў, чым няшчырых сяброў). З 26.07. шыкуйся на незабыўную імпрэзу.

**(21.04. — 21.05.)** Калі завельмі сканцэнтруешся на здабыванні грошай, можаш страціць важнейшае. Каханне стукае ў дзверы раз-пораз. Час на сур'ёзныя размовы, аналізы і паляпшэнне адносін у пары. Можаш зарабіць грошы, аб якіх і не марыў (іграй!). Магчымае новае каханне чакае цябе 25-29.07.

**(22.05. — 22.06.)** Можаш спадзявацца павышэння. Будуць належна ацэнены твой спрыт, інтэлігентнасць, адвага. Нагоды зарабіць датковыя грошы. Ды асцерагайся, каб не страціць таго, што зарабіў (не іграй!). Але пачынаючы з 26.07. задумы могуць быць нявартыя рэалізацыі. З 24.07. (да 30.07.) схочаш здабыць чыёсьці сэрца, але прыйдзецца моцна змагацца з сапернікам. 24-27.07. могуць быць неспадзяваныя выдаткі.

**(23.06. — 23.07.)** Можаш разлічваць на апеку і падтрымку сяброў. Затое з адным сябрам будуць турботы. Адмовішся ад праектаў, якія лічыў раней важнымі. Не схочаш працаваць з кімсьці, да каго страціў давер. 22-24.07. прыдасца табе не раз дапамога сяброў. Пры прапановах новай працы (асабліва 23-27.07.) добра іх прааналізуй; ненайлепшы час на размовы з шэфам пра павышэнне.

**(24.07. — 23.08.)** Ты здольны да таго, каб перамагчы любыя перашкоды. Засяродзься аднак найбольш на сабе і сваім партнёры. Тым больш, што чакаюць цябе незямныя жарсці! Хоць непаразуменні і інтрыгі ў сям'і могуць давесці да сур'ёзнага канфлікту. 26-28.07. не паддайся «цудоўнаму» моманту і не ідзі задаёлка. 26-28.07. лепш не падпісвай ніякіх дамоў. З 24.07. (да 30.07.) твая цярплівасць будзе паддадзена выпрабаванню.

**(24.08. — 23.09.)** Магчымыя сваркі на працы, асабліва з Ільвамі. Ды раздражненасць пойдзе на спад. З 27.07. твае геніяльныя ідэі захопяць усіх, а найбольш твайго партнёра. 22-24.07. прыхільныя табе чыноўнікі і асобы на высокіх пасадах. 25-29.07. разумныя высновы з чужых памылак. Падуладным ясна і канкрэтна падавай загады, бо будзе цяжка асабліва пасля 26.07.

**(24.09. — 23.10.)** Не намагайся на нейкія амбітныя мерапрыемствы, лепш адпачывай. Вольныя Шалі могуць пераканацца, што ідэалаў мала ходзіць па свеце, а ўява прыгажэйшая ад рэальнасці. Не выдавай, пакуль не заробіш! 22-24.07. дыпламатыя прынясе поспех. 24-27.07. можаш адчуць самоту.

**(24.10. — 22.11.)** Моцна заангажуешся ў важныя мерапрыемствы. Будзеш бунтавацца супраць усіх абмежаванняў. Добры настрой, рамантызм. Зважай на праблемы з нутром. 23-27.07. Скарпіёны, якіх жыццё ў пары было пеклам, могуць рашыцца на волю (неўзабаве новае шчаслівае каханне) 22-24.07. атрымаеш заслужаную ўзнагароду. 25-29.07. пазнаёмішся з новымі сябрамі; будзеш схільны да гвалтоўных рэакцый. 23-27.07. пільнуйся ад «ужывак», бо могуць вярнуцца кепскія звычкі.

**(23.11. — 22.12.)** 22-24.07 спраўна аформіш кожную справу ва ўстановах. 23-27.07. не зрабі якогась глупства і не страць твару. 23-27.07. не страць вялікай сумы грошай; трымайся здалёк ад азарту, не бяры крэдытаў, а асабліва «хвілёвак». У пачуццях патрабуеш доказаў! Маеш шанцы на павышэнне. Адкрываюцца рэдкія шанцы. Ды дай сабе шанц крыху паленавацца і ўрэшце адпачыць!

**(23.12. — 20.01.)** Адвага, прадпрымальнасць. Да 25.07. пазбягай падарожжаў і кантактаў з чужаземцамі. 25-29.07. можа цябе трапіць страла Амура. Дбай пра добрую атмасферу ў сям'і. Твае праекты стануць набіраць цела.

**(21.01. — 19.02.)** Асцерагайся канфліктаў, бо можаш страціць важны кантакт. Да 25.07. магчымыя фінансавыя завіраванні. На шчасце знойдзеш развязку і ўсё вернецца да нормы. Шмат спраў убачыш у іншым святле. З 26.07. (да 30.07.) вялікі поспех у кампаніі. 26-28.07. дарогі некаторых Вадалеяў з іх парай могуць разысціся.

**(20.02. — 21.03.)** Будзь спакойны і абачлівы. 22-24.07. можаш купіць файныя і недарагія рэчы з адзення. Але 23-27.07. схочаш набыць штосьці, на што табе, на жаль, можа не хапіць сродкаў. 25-29.07. варта аднавіць сямейныя сувязі і адчуць блізкасць з сапраўднымі сябрамі. Самотную Рыбу не абміне страла Амура.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

ISSN 0546-1960